НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 3 (792) 23 студзеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 19… ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сера…

## Прыгажуня і страшыдла

Старонка 8.



## Унучкі Лукашэнкі хочуць больш беларускай мовы ў школе

Старонка 6.



# Кіраўнік дзяржавы дбае аб пенсіянерах



В ♠



Пятро Пракаповіч, віцэ-прэм'ер 70 гадоў

В ♦



Анатоль Рубінаў, старшыня савета рэспублікі 73 гады

В ♣



Міхаіл Мясніковіч, прэм'ер-міністр 62 гады

Новая роля Віктара Шэймана — старонка 3. Апошняе прызначэнне Пятра Пракаповіча — старонка 5.

**In memoriam**

## Міхась Чарняўскі

Памёр гісторык і адзін з айцоў руху за незалежнасць. **Старонка 11**.



**Войска**

## Прызыў ці не прызыў?

Адкуль бярuцца нацыянальныя эліты? **Старонка 7.**



**Здарэнні**

## Выбух газу зруйнаваў катэдж за $200 тысяч

Гаспадар-інвалід страціў усё, што меў. **Старонка 10.**



**Доля**

## Страшная смерць Юрыя Гуменюка

Паэт вываліўся з дзявятага паверха. **Старонка 9**.



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# БТ абурылася пытаннем «Нашай Нівы»




Пытанне Аляксандру Лукашэнку пра палітвязняў прапагандысты назвалі **«дамскім тролінгам»**.

Сюжэты адразу дзвюх нядзельных перадач тэлеканала «Беларусь-1» — «Клуб рэдактараў» і «Панарама» — былі прысвечаныя пытанню, якое задала Аляксандру Лукашэнку на прэс-канферэнцыі карэспандэнтка «Нашай Нівы» Аксана Рудовіч. «У нас не дыялог. Я задаю пытанне — вы адказваеце», — абрэзала яна, калі кіраўнік дзяржавы паспрабаваў уцягнуць яе ў абмен рэплікамі.

Прапагандысты з БТ не пакінулі гэтага без увагі. «Тролінг — злоснае зубаскальства, найчасцей ананімнае і ў інтэрнэце. У глабальным павуцінні гэта прабачаецца, але для перыядычнага друку гэта не проста благі тон, а непрафесіяналізм у чыстым выглядзе», — вяшчаў голас Андрэя Крывашэева (дарэчы, сюжэт застаўся ананімным). Пасля таго як чыесьці рукі прагарталі свежы нумар «Нашай Нівы» і ў эфіры зноў прагучала пытанне Аксаны, голас БТ-шніка безапеляцыйна заявіў: «Вось прыклад дамскага тролінгу — бессэнсоўнага і бязлітаснага». «Няздольнасць весці дыялог і пазёрства — гэта што, маніпуляванне інтарэсаў чытачоў ці жаданне пакрасавацца на камеры?» — пытаўся Крывашэеў.

У якасці экспертаў выступілі старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька і галоўны рэдактар «Советской Белоруссіі» Павел Якубовіч, якія скаціліся да непрыхаванага хамства ў бок карэспандэнткі «НН». Асабліва абураўся «непрафесіяналізмам маладой журналісткі» Генадзь Давыдзька. Пытанне «НН» не давала яму спакою ўвесь тыдзень — ад аўторка аж да нядзелі. Адметна, што падчас прэс-канферэнцыі прысутнічаў у зале і сам Давыдзька. Вядома ж, ніводнага вострага пытання ён не задаў. Затое запомніўся тым, што ўвесь час ківаў услед за словамі Лукашэнкі.

«Запрашэнне на дыялог з прэзідэнтам стала ... шанцам выйсці з павуціння самаізаляцыі і шчыра пагаварыць пра тое, што хвалюе краіну. На жаль, шанец страчаны», — падсумавалі БТшныя прапагандысты.

Між тым, журналістка «НН» ніякіх эмоцый не выплёсквала. Яна проста задала пытанне і папрасіла адказаць на яго, калі гэтае пытанне паспрабавалі забалбатаць, калі ёй дзеля чагосьці, замест адказу, задалі чатыры пустыя ўдакладняючыя пытанні, спрабуючы ўцягнуць у абмен рэплікамі.

Не справа рэпарцёраў — какетнічаць з палітыкамі. Што да дыялогу, то яго трэба весці не раз на год і не з рэпарцёрамі.

**ЯМ**

# Park Avenue ў зялёнай зоне: мінчукі супраць

Жыхары вуліцы Пуліхава **збіраюць подпісы пратэсту**.

У Мінску на скрыжаванні вуліц Першамайскай і Пуліхава хочуць пабудаваць забаўляльны цэнтр Park Avenue. На трох паверхах агульнай плошчай 2500 квадратных метраў размесцяцца велакавярня з крытай стаянкай, рэстаран, выстаўныя павільёны, спартыўная зала і атракцыёны. Таксама гаворыцца пра стварэнне новага помніка «Гандола», які мае стаць «вартым упрыгожваннем парку і славутасцю горада Мінска».

Грамадскія слуханні па праекце адбыліся 16 студзеня. Большасць мясцовых жыхароў ставяцца да магчымай новабудоўлі негатыўна: супраць яе сабралі ўжо сотні подпісаў. «Чарговае казіно? Будзе распуста ў нас пад вокнамі!» — катэгарычна пракаментавала на вачах у карэспандэнта «Нашай Нівы», ставячы свой подпіс, 76-гадовая пенсіянерка Вера Іванаўна. «НН» папрасіла мінскага архітэктара Аляксандра пракаментаваць праект Park Avenue. «Па-першае, будынак парушыць водна-зялёны дыяметр, — перакананы ён. — У той самы час побач — вагон вольнай зямлі на месцы завода імя Кірава».

У Park Avenue запланавана ўсяго 50 паркавачных месцаў, і тое з улікам стаянкі суседняга «Еўраопта». «Рашэнне па стаянках адназначна супярэчыць логіцы і дзейным нормам. І гэта ўсё ў непасрэднай блізкасці ад жылля, у водаахоўнай зоне і без таго перагружанай ракі».

**Кірыла Хілько**




**Багатыя таксама плачуць**

# Гутар заплаціць БАТЭ $180 тысяч кампенсацыі

Найлепшы футбаліст Беларусі 2011 года Аляксандр Гутар рассварыўся з уласным клубам. Брамнік БАТЭ летась згуляў менш чым у 10% матчах каманды. Ён захацеў сысці, але змяніць каманду яму забараняе кантракт. Беларуская федэрацыя футбола дазволіла Гутару разарваць дамову, але пры адной умове. Яму трэба сплаціць кампенсацыю: 180 тысяч даляраў. Зрэшты, пры цяперашніх заробках спартоўцаў гэта не так ужо і шмат.

**АГ**




## Сцісла

**«Дэвальвацыя будзе невялікая, як летась»**

Паводле прагнозу намесніка старшыні Нацбанка Мікалая Лузгіна, сёлета рубель нязначна саслабее: «Пры інфляцыі 10–12%, якая запланавана, мабыць, павінна быць нейкая невялікая дэвальвацыя, як летась». У 2012 рубель аслабеў да кошыка валютаў у сярэднім на 5,2%.

**У Оршы застрэліўся падпалкоўнік міліцыі**

Афіцэр Дэпартамента аховы МУС быў знойдзены мёртвым на працоўным месцы 21 студзеня. Галоўная версія следчых органаў — самагубства. Смерць наступіла ад агнястрэльнага ранення ў галаву.

**Мінчук дапамог затрымаць серыйнага разукамплектоўніка**

26-гадовы юрыст Мікалай стаў сведкам, як уначы незнаёмец у чорнай вопратцы зняў фары з «Сітраена», а пасля сеў у свой «БМВ» і з'ехаў. Мікалай запомніў нумар аўто і выклікаў міліцыю. Падазронага мужчыну адшукалі. Ён працаваў на адной са сталічных СТА. У яго гаражы таксама знайшлі 1,5 кг марыхуаны і дзевяць бутэлек экстракцыйнага опію.

**ЯМ, КМ**

## Рэкамендуем

### КГБ СССР пра пасляваенны антысавецкі супраціў у Беларусі

З першых рук: копія навучальнага дапаможніка Вышэйшай школы КГБ 1957 года.

### Кастынг у «ВІА гра»

Што пытаюцца? Як адказваюць? І чаму трэба агаляць грудзі?

**Чытайце на nn.by**

## Самае чытанае за 16—22 студзеня

1 Аксана Рудовіч — Лукашэнку: «У нас не дыялог. Я задаю пытанне — вы адказваеце»

2 На кастынгу ў «ВІА гра» дзяўчаты агалялі грудзі

3 Снег у Мінску — фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна

4 Унучкі Лукашэнкі хочуць больш беларускай мовы ў школе

5 «Пуцін не фатаграфаўся з Дзедам Хасанам»

6 У Азаранкі новы бойфрэнд: амерыканскі рэпер Рэдфу

7 Папугай спявае «Белавежскую пушчу»

8 20-гадовая шведка ўгнала пасажырскі цягнік і ўрэзалася ў жылы дом

9 «Шэф шэфаў мафіі» родам з Гродна

10 А як паводзіў сябе Давыдзька падчас прэс-канферэнцыі? — відэа

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Ад аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

# «Купанне на Вадохрышча— гэта прафанацыя свята»

Святары і дактары **не раяць** лезці ў палонку.

Купанне на Вадохрышча апошнія гады становіцца масавым. Нічога такога нашы дзяды не рабілі.

«Гэтае свята — успамін пра хрышчэнне Ісуса ў Іардане,— расказвае праваслаўны святар айцец Аляксандр Шрамко.— Гэта свята абнаўлення чалавека пры дапамозе вады. У хрысціянскай традыцыі святой вадой асвячаюць родных і блізкіх, жытло».

Што тычыцца купання ў палонцы, то гэта проста экстрэмальная забаўка.

«Апошнім часам купанне стала асноўным у святкаванні Вадохрышча, аднак гэта проста нейкі «рускі экстрым»,— кажа айцец Шрамко.— Яно не мае нічога супольнага са святам, бо духоўнага сэнсу ў ім няма, хутчэй, нагода павесяліцца. Атрымліваецца прафанацыя свята, бо чалавек, акунуўшыся раз на год, пачынае лічыць, што змыў усе грахі, але ж гэта не так. Вадой трэба асвяціць тых, хто побач, а не ныраць у яе».

Дактары ж на купанне сярод лёду ўвогуле глядзяць са страхам. «Гэта вялікі стрэс для арганізма, усё адно што ўзяць і без трэніроўкі прабегчы 20 кіламетраў,— кажа доктар-рэаніматолаг Зміцер Салошкін.— Карыснага ў фізіялагічным плане тут няма. Адзін такі заплыў можа прывесці да ўзмацнення хранічных хваробаў. Дый сэрца чалавек садзіць».

Як трэба рыхтавацца да нырання ў палонку, калі вельмі хочацца? «Гэта нармальна для чалавека, які прымае кантрасны душ штодня, для цалкам здаровага чалавека,— кажа доктар Салошкін.— Пасля заплыву трэба адразу расцерціся, выпіць гарачага, апрануцца ў цёплае сухое адзенне, а не бегаць, напрыклад, басанож вакол палонкі, як робяць некаторыя. Тут заўжды ёсць небяспека сардэчнага збою. Аднак магу сказаць, што ў чалавека, які «перажыў» палонку і не захварэў, у арганізме адбываецца выкід адрэналіну і іншых біялагічна актыўных гармонаў. Адчуванне, як калі ўпершыню скокнуць з парашутам — вельмі яскравае: вялікі эмацыйны ўздым. Таму людзі і ныраюць».

**Юрась Ускоў**


PHOTO BYMEDIA.NET

## Улада пенсіянераў

«Лукашэнка насамрэч дбае пра пенсіянераў: аднаго зрабіў прэм'ер-міністрам, а двух другіх — спікерамі». Такі анекдот даслалі ў «Нашу Ніву» на мінулым тыдні.

Жыццё яго пацвердзіла адразу: новым віцэ-прэм'ерам стаў 70-гадовы Пятро Пракаповіч (**старонка 5**).

З таго ж пакалення прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч— 62 гады, спікер палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка— 64 гады, дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі Леанід Мальцаў— 63 гады... Хто больш? Калі ласка, спікеру савета рэспублікі Анатолю Рубінаву ўжо 73 гады. Зрэшты, і сам Лукашэнка ў 2014 годзе дасягне пенсійных гадоў.

**Віталь Несцераў**

## Аўгіевы канюшні вычысцяць

Галоўную гаспадарчую пасаду нечакана атрымаў **Віктар Шэйман**.

21 студзеня Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго кіраўніком справаў прэзідэнта. На папярэднім месцы, у якасці памочніка прэзідэнта па асаблівых даручэннях, ён адпрацаваў менш за два тыдні. «Пяць фактаў» з яго нага жыцця «Наша Ніва» друкавала зусім нядаўна, у №1 (790) ад 9 студзеня.

Найбольш часу Шэйман адслужыў у сілавых структурах, але і пасады на мяжы з бізнэсам яму не ў навінку. Напрыклад, у 2009 ён стаў памочнікам прэзідэнта па асаблівых даручэннях у структуры дзяржсакратарыята Рады Бяспекі. І з гэтай пасады курыраваў далікатныя праекты ў Венесуэле, але не толькі ў Венесуэле. Пры гэтым сеў у турму Шаўцоў з «Трастбанка» і «Белзамежбуда».

Кіраўніцтва справаў прэзідэнта імкліва прырастала маёмасцю за часамі сумнавядомых Івана Ціцянкова і Галіны Жураўковай. З прыходам вопытнага Шэймана арганізацыю можа разлічваць на новыя задачы. А да задач звычайна прыкладаецца маёмасць.

Гаспадарчую структуру прэзідэнтуры не раз трэслі магутныя карупцыйныя скандалы. У гэтым сэнсе Шэймана ставяць, каб ён вычысціў аўгіевы канюшні гэтай сярэдняга памеру бізнэс-імперыі і навёў там парадак.

**Мікола Бугай**

## Пяць фактаў пра былога «заггаспа» Мікалая Корбута

Ён **працаваў** у структуры Кіраўніцтва справаў прэзідэнта **ажно з 1994 года**.

18 студзеня быў вызвалены з пасады «заггаспа» праверany лукашэнкавец 50-гадовы Мікалай Корбут. Новае прызначэнне ён пакуль так і не атрымаў.

### 1. Абслугоўваў дыпламатаў

Нарадзіўся Мікалай Корбут у Вёсцы, скончыў наргас.

Апошнія 18 гадоў ён адпрацаваў толькі ў Кіраўніцтве справаў прэзідэнта. Спачатку ўзначальваў «Дыпсэрвіс» — абслугоўваў дыпламатычны корпус і афіцыйныя дэлегацыі. У 2001 ён стаў першым намеснікам кіраўніка справаў, а ў 2009 сам узначаліў гэтае ведамства.

«Для вас важная сумленнасць і прыстойнасць у працы. Вас абавязвае да гэтага сама шыльда ведамства. Калі ў вас нейкі пралік — адразу кідаецца цень на прэзідэнта», — казаў Лукашэнка, прызначаючы Корбута.

За два тыдні да Корбута ў адстаўку былі адпраўлены і яго ны першы намеснік Анатоль Дазораў.

### 2. Загадчык бізнэс-імперыі

Кіраўніцтва справамі прэзідэнта — гэта бізнэс-імперыя, якая ўключае ў сябе латарэі, офісы, кавярні, нават нацыянальныя паркі, санаторыі, як у Беларусі, так і за мяжой. Таму і пасада ўпраўляючага вельмі адказная.



Публічную незадаволенасць працай Кіраўніцтва пры Корбуту Лукашэнка выказваў аднойчы. Калі сталі вядомыя факты існавання бардэля ў Нацыянальным парку «Прыпяцкі», а таксама злоўжыванні падчас паляванняў там жа. Корбуту загадалі «жастачайша» з гэтым разабрацца.

### 3. Займаўся адраджэннем слуцкіх паясоў

«У доме кожнага беларуса павінен быць слуцкі пояс»,— заявіў Лукашэнка падчас леташняга звароту да парламента і народа. Займацца гэтым прыйшлося таму самаму Корбуту.

### 4. Корбут і Макей

Мікалай Корбут часта з'яўляўся ў паведамленнях СМІ разам з Уладзімірам Макеем. Корбут з Макеем не толькі разам лёталі ў далёкія краі, але і на суботнікі выходзілі разам.

### 5. Другі Корбут

Мікалай Корбут— гэта ўжо другі чалавек з такім імем у найвышэйшых эшалонах улады. Ад 1997 да 2008 міністрам фінансаў быў Мікалай Пятровіч Корбут. Працаваў да той пары, пакуль не разбіў інсульт. Мікалай Мікалаевіч Корбут усяго толькі цёзка былога міністра, хоць і паходзяць яны з аднаго слуцка-капыльскага рэгіёна.

**Зміцер Панкавец**

**Усе «заггаспы» Лукашэнкі**

**Іван Ціцянкоў** (1994–1999) — уцёк у Расію.

**Уладзімір Ганчарэнка** (1999–2001) — былы міністр сувязі.

**Галіна Жураўкова** (2001–2004)— пасля суда за карупцыю была памілаваная Лукашэнкам, уцякла ў Расію.

**Генадзь Лаўранкоў** (2004–2005)— былы старшыня Шклоўскага райвыканкама; цяпер інспектар па Магілёўшчыне.

**Аляксандр Кулічкоў** (2005–2008) — былы губернатар Магілёўшчыны і міністр гандлю.

**Мікалай Дамашкевіч** (2008–2009) — былы кіраўнік Меншчыны; цяпер інспектар па Віцебшчыне.

**Мікалай Корбут** (2009-2013).

**Віктар Шэйман** (з 2013).

## «Ён ненавідзеў беларускі народ»

Група праўладных гісторыкаў сабралася ў Мінску, каб **«развянчаць міф аб Каліноўскім»**.

Канферэнцыю назвалі «Польскае шляхецкае паўстанне 1863 года. Погляд на падзеі праз 150 гадоў».

Дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандр Загорнаў параўнаў дзейнасць паўстанцаў з тэрарыстамі. Яго падтрымалі дацэнт Інстытута тэалогіі БДУ Аляксандр Бендзін і дацэнт кафедры паліталогіі БДУ Усевалад Шымаў. Дарэчы, у той самы час родны брат Шымава Яраслаў, які працуе на расейскай службе радыё «Свабода», апублікаваў спачувальны артыкул аб тым паўстанні.

Напрыканцы кіраўнік праекта «Заходняя Русь» Ігар Зелянкоўскі заклікаў пачаць збор подпісаў за вяртанне ў Мінск помніка Аляксандру II, бо «гэта ён з'яўляецца сапраўдным героем для беларускага народа, а ніякі не Каліноўскі».

**МБ, паводле «Еўрарадыё»**

### Сцісла

**Анатоль Куляшоў паправіўся**

Былы міністр унутраных спраў уладкаваўся дарадцам у выканкам СНД. Пасада прыбытковая, хоць і не прэстыжная. Заробак Куляшову выплачваецца ў расійскіх рублях. Адстаўку міністра звязвалі з цяжкай хваробай, цяпер здароўе былога міністра палепшала.

**Штрафы вырастуць да 10 мільёнаў**

Генпракуратура падрыхтавала прапановы ўзмацнення пакарання для нецвярозых кіроўцаў. У тых, хто паўторна трапіцца за стырном п'яным, адбяруць машыну. Прычым незалежна ад таго, каму яна належыць. Максімальнае пакаранне за аварыю на п'яную галаву можа дасягнуць 10 гадоў турмы.

**ЯМ**

# Недаспадобы мова ці мама?

У Мінску **білборды «Мама=мова»** знялі, у рэгіёнах пакінулі.

Рэклама не правісела і месяца, хаця мусіла радаваць вока не менш за паўгода. Яе замянілі на іншую. Рэкламшчыкі кажуць: прыйшоў загад. Але не ўдакладняюць адкуль. Чыноўнікі ж разводзяць рукамі: нічога не ведаем. Нават у Міністэрстве культуры, якое замовіла білборды, не могуць патлумачыць. Маўляў, іх не папярэджвалі, што здымаюць.

Білборды з нагадкай пра родную мову з'явіліся ў пачатку студзеня на вуліцах Мінска і абласных гарадоў. Але пасля таго, як іх пачалі прыбіраць у сталіцы, у абласцях таксама падхапілі тэндэнцыю. Няясна, якімі крытэрамі кіраваліся. Калі ў Мінску «Мама=мова» здымалі, то ў Гродне мянялі іншую рэкламу — «Маё першае слова». А ў Гомелі ўвогуле ставілі дадатковыя білборды. Сёння беларускамоўная рэклама застаецца ва ўсіх гарадах. Але яе паменшала.

Зразумела, што загад ідзе зверху. Прыгадваецца, як два з паловай гады таму знікла рэклама «Беларускае — самае маё!». Тады таксама не давалі адказу, хто забараніў. Кулуарна перашэптваліся, што распараджэнне прыйшло ад намесніцы кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Пяткевіч. Нібыта палічылі, што рэклама «занадта беларуская». Цяпер Пяткевіч працуе памочніцай прэзідэнта.

**Сяргей Макарэвіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фотафакт**




**Знікненне «моўных» білбордаў у Мінску выклікала рэакцыю ў інтэрнэце. Прыдумалі такі дэматыватар.**

# «Ну што, с.ка, сабрала ласіны?»

Актывістка Юлія Сцяпанава сцвярджае, што **стала ахвярай нападу**.


**Відавочцаў нападу няма, дзяўчына сцвярджае, што напалі двое.**

Актывістка суполкі моладзі «Еўрапейская Беларусь» Юлія Сцяпанава заявіла, што на яе напалі невядомыя і абрэзалі валасы. Па словах Юліі, апошнія два тыдні незнаёмыя людзі прыходзілі да суседзяў, перадавалі пагрозы. У паштовай скрыні на туалетнай паперы памадай было напісана «с.ка».

А ў ноч на 14 студзеня, калі яна ў 0:45 ішла ад аўтобуснага прыпынку да свайго дома, на яе напалі двое. Адзін схапіў за рукі ззаду, другі абрэзаў ёй каротка валасы. Кінулі тварам у снег.

**«НН»: Вы звязваеце гэты напад з грамадскай дзейнасцю?**

**ЮС:** Так. Яны сказалі: «Ну што, с.ка, сабрала ласіны?» Я дапамагаю рэпрэсаваным: збіраю адзежу, прадукты.

**«НН»: А што за ласіны, прычым тут яны?**

**ЮС:** Калі чарговы раз узламалі маю старонку ў сацсетках, я напісала такі пост: прапаную сабраць для супрацоўнікаў спецслужбаў ласіны. Ну, зялёныя ласіны з дзяржсімволікай.

**«НН»: Заяву ў міліцыю будзеце падаваць?**

**ЮС:** Ужо падала. Трэба зафіксаваць гэта.

**СМ**

# Суддзя Вольга Комар вызваленая ад пасады

У суддзі з першага працэсу за Плошчу **«закончыўся тэрмін паўнамоцтваў»**.

Вольга Комар працавала суддзёй Фрунзенскага раёна сталіцы. Згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі ад 14 студзеня, яна вызваленая ад працы — закончыўся тэрмін паўнамоцтваў. Разабрацца ў прычынах нам не ўдалося. На тэлефонным нумары, зарэгістраваным на спн.Комар, нам адказалі, што гэта не яе тэлефон.

Комар у 2011-м разглядала першы працэс па справе Плошчы. Тады яна на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму пасадзіла Васіля Парфянкова. Яна запомнілася таксама судамі над грамадскім актывістам Паўлам Станеўскім, праваабаронцам Паўлам Левінавым — абодвух сумленных людзей адправіла на суткі — маўляў, за лаянку.

Ёй забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС.

**Кастусь Матушыч**



# У знак салідарнасці пастрыгся нагала





Былы палітвязень Сяргей Казакоў у знак салідарнасці з Юліяй Сцяпанавай пагаліў галаву. «Такі спосаб, відаць, праз мае прыватныя перажыванні. Я добра ведаю, што такое застацца без валасоў», — кажа Сяргей. Ён быў затрыманы пасля падзей 19 снежня 2010. Насіў доўгія валасы (**на фота справа**), граў у рок-гурце. Але ў ізалятары іх абрэзалі.

Сяргей Казакоў быў асуджаны на тры гады калоніі за ўдзел у Плошчы. У жніўні 2011 выйшаў на свабоду — памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам. «Салідарнасць — гэта найбольшае, што дапамагае, дае веру, што не дарэмна тое, дзеля чаго ты пацярпеў», — кажа ён.

**СМ**

# Швецыя дэпартуе Вольгу Класкоўскую

Рашэнне прынята **без права абскарджвання**.

Улады Швецыі адмовілі беларусцы Вользе Класкоўскай у атрыманні віду на жыхарства і прынялі рашэнне аб яе дэпартацыі без права абскарджвання.

30-гадовая Вольга Класкоўская выехала з Беларусі ў Польшчу ў 2004 годзе, сцвярджаючы, што ў Беларусі ёй пагражала небяспека. Потым у жніўні 2010 г. перабралася ў Швецыю. На нейкі час яна вярнулася ў Беларусь, але неўзабаве зноў выехала.

Да ад'езду яна надоўгі час працавала журналісткай у «Народнай волі». Яна скарыстоўвала гэты факт, каб атрымаць прытулак.

У Швецыі яна выйшла замуж і нарадзіла дзіця, але тым не менш улады па запыце аб відзе на жыхарства дзеля ўз'яднання сям'і прынялі рашэнне не на яе карысць.

**Сяргей Гезгала**



# Апошняе прызначэнне Пятра Пракаповіча

70-гадовы Герой Беларусі стаў віцэ-прэм'ерам.




На яго ўскладзена адказнасць «за выкананне бюджэту і прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі», а таксама за мадэрнізацыю эканомікі. «Наша Ніва» ўзгадвае пяць фактаў пра легендарнага Пятра Пятровіча.

## 1. «Дэвальвацыі не будзе»

Многія думаюць, што ў гэтага чалавека парык. Але ж гэта прычоска.

Многія думаюць, што Пракаповіч — увасабленне «гопніка» ва ўладзе. Але ж сустракаюць па адзежцы, а праважаюць па розуме.

Многія думаюць, што Пятро Пятровіч... ммм... Сяргей Навумчык назваў яго «дэбілам», «бо інтэлектуальны ўзровень проста не пакідае вам шанцаў на гутарку». Аднак гэтая характарыстыка хутчэй сведчыць пра Навумчыкава разуменне, што такое «розум». Але ж Пракаповіч 13 гадоў узначальваў Нацыянальны банк і заслужыў рэпутацыю старраннага вучня.

Многія думаюць, што ў дэвальвацыі і бясконцай інфляцыі вінаваты Пракаповіч. Але ж рашэнне, колькі грошай друкаваць, прымае ў гэтай сістэме не ён. Пракаповіч заўжды быў выканаўцам, і цяпер яго зноў паслалі на пасаду ў найвышэйшы выканаўчы орган.

Але за пчолкаю — у мёд, за жуком — у гной... Прозвішча Пракаповіча ў народнай памяці застанецца дзякуючы ягонаму гучнаму нявыкананаму абяцанню. «Пакуль я з'яўляюся старшынёй Нацбанка, дэвальвацыі больш за 5% не будзе», — кляўся ён у сакавіку 2011 года.

У самога ж Пракаповіча пачаліся праблемы са здароўем. Аперацыя на сэрцы, доўгая рэабілітацыя... — грамадскасць была перакананая, што ва ўладу Пракаповіч ужо не вернецца. Не маючы пасады, ён раз'язджаў па Брэстчыне разам з губернатарам.

На паверхню Пракаповіч зноў усплыў у жніўні 2012, калі стаў дарадцам Лукашэнкі па эканамічных пытаннях, а пасля і старшынёй Рады па развіцці прадпрымальніцтва.

## 2. Папаўся, жучку, у панскую ручку

Пракаповіч атрымаў будаўнічую адукацыю ў Днепрапятроўску.

Развал Савецкага Саюза ён сустрэў кіраўніком «Брэстаблсельбуда», арганізацыі, якая будавала кароўнікі ва ўсёй вобласці. Ягоны блізкі калега на наша пытанне «ну і якім быў Пятро Пракаповіч?» адказаў адным словам: «Жук!»

Адтуль ён пайшоў у дэпутатам у Вярхоўны Савет, дзе не ўваходзіў у групу цвердалобых камуністаў, але трымаўся пазіцыі кебічаўскай наменклатуры. З Лукашэнкам таксама сябраваў. І ў 1996 яго прызначылі намеснікам старшыні Адміністрацыі прэзідэнта, а пасля і першым віцэ-прэм'ерам.

У Нацбанк ён прыйшоў у 1998 годзе. Па ўспамінах ягоных калег, Пракаповіч даволі хутка пачаў асвойвацца ў банкаўскай справе. Казалі, што погляды ў старшыні былі даволі-такі рынкавымі, аднак хацелі як лепш, а выйшла як заўсёды.

За сваю банкаўскую працу Пракаповіч нават атрымаў званне Героя Беларусі. Пасля дэвальвацыі рубля, праз якую ашчаджэнні беларусаў патаннелі больш як на мільярд даляраў, гордага звання ён так і не адрокся.

## 3. Сын кааператара. З Казлоў

Пятро нарадзіўся на Пружаншчыне, у вёсцы Казлы, аднак усё дзяцінства правёў у Тамашоўцы. Цяпер гэта ўзорны аграгарадок пад Брэстам, літаральна за 100 метраў ад мяжы з Украінай.

Сваім бязбедным жыццём Тамашоўка абавязаная перадусім касманаўту Пятру Клімуку, аднакласніку Пракаповіча. У савецкія часы тут стварылі музей касманаўтыкі, які быў уключаны ва ўсесаюзны турыстычны маршрут. Гэта абавязвала Тамашоўку быць дагледжанай.

Другое дыханне вёска атрымала дзякуючы Пракаповічу. Брукаваныя дробнай пліткай тратуары, школа будучыні з зімовым садам, трохпавярховы аздараўленчы цэнтр з тэніснымі кортамі... Усё гэта з'явілася дзякуючы апякунству Нацбанка. У адрозненне ад большасці іншых населеных пунктаў, тут фіксуецца прырост насельніцтва.

Бацька Пракаповічаў працаваў у спажывецкай кааперацыі. Што такое кааперацыя ў савецкія часы? Адна з квазірынкавых сфераў.

Маці не працавала, бо сям'я ў іх была вялікая, як і шмат у каго ў тыя часы — чатыры сыны і дачка. Пятро быў старэйшым. Ягоныя браты працуюць адзін ляснічым, другі ў транспартнай галіне. У кіраўнікі пайшоў яшчэ адзін брат, Васіль. Ён ад пачатку 1990-х узначальваў мясцовы калгас, які валодае тамашоўскімі гатэлем і рэстаранам. А вось сястра раней працавала галоўным бухгалтарам «Мінскпраекта».

У самога Пятра сям'я меншая. Паводле апошніх звестак, ён жыве ў катэджы ў Драздах разам з жонкай, мае дачку, сына і ўнучку.

## 4. Імя агульнае

У гісторыю беларускага інтэрнэту Пётр Пракаповіч трапіў дзякуючы сайту «Пракапові.Ч», на якім падчас валютнага крызісу 2011 года вызначаўся рэалістычны курс даляра.

## 5. Аўтограф

Калі мы пабачым аўтограф Пятра Пракаповіча, пакінуты ім у кнізе запісаў Ружанскага палаца (злева ў кружку на фота), перад намі паўстае чалавек з хуткім розумам, без завышанай самаацэнкі. Роўныя лініі радкоў паказваюць, што яго цяжка расстроіць дробнымі непрыемнасцямі ці заявамі іншых людзей. Апошнія літары словаў ды кропка ў канцы подпісу выдаюць крайне асцярожную натуру.

На пасаду віцэ-прэм'ера, адказнага за фінансавую сферу, прыйшоў далёка не рэвалюцыянер. Зрэшты, калі табе за 70 гадоў, а твайму працадаўцу 58 — да якіх тут рэвалюцый?

Гэта апошняе прызначэнне спадара Пракаповіча. Вяршыня кар'еры. Пасада віцэ-прэм'ера, адказнага за скарачэнне дзяржаўных выдаткаў у год пікавых выплат па ранейшых крэдытах.

**Ягор Марціновіч**

---

**Фотафакт**



### У Лідзе выпусцілі новы аўтобус

Новая мадэль лідскіх аўтобусаў, «Нёман 520123-250», з'явілася пры канцы 2012 года. Серыйная вытворчасць пачнецца сёлета.

Аўтобус прызначаны для гарадскіх і прыгарадных перавозак, у ім 44 мяккія рэгуляваныя крэслы і яшчэ 46 стаячых месцаў. Максімальная хуткасць — 90 км/г.

**ЯМ**

---

Дзе п'юць, там і б'юць

## З дзесяці найбуйнейшых платнікаў падаткаў на Брэстчыне — чатыры вытворцы алкаголю

21,4% кансалідаванага бюджэту Брэсцкай вобласці за 2012 год сфарміравалі 10 буйных плацельшчыкаў, паведамляе Міністэрства па падатках і зборах.

Найбуйнейшыя платнікі рэгіёна — гэта Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод «Белалка» (7,4% паступленняў кансалідаванага бюджэту вобласці), прадпрыемствы «Брэстэнерга» (2,6%) і «Граніт» (2,0%).

У спіс самых буйных плацельшчыкаў таксама трапілі прадпрыемствы «Брэстгазаапарат» (1,8%), «Беларуснафта-Брэстаблнафтапрадукт» (1,6%), «Санта Брэмар» (1,4%), філіял ЗАТ «Атлант — БСЗ» (1,2%), прадпрыемствы «Манькавічы» (1,2%), «Брэсцкае піва» (1,1%), Пінскі вінаробны завод (1,0%).

**Паводле БелаПАН**

---

## Сцісла

### Беларускія лекі падаражэлі

Дазволены Міністэрствам аховы здароўя рост цэнаў склаў 6—20% і закрануў некалькі дзясяткаў прэпаратаў.

### Банкаўскія крэдыты без камісій

Ад 21 студзеня ўступілі ў сілу змены ў Банкаўскі кодэкс. Зараз усе камісійныя плацяжы ўключаныя ў агульную стаўку. Апроч таго, замацоўваецца паняцце «электронныя грошы».

### Камп'ютары не падаражэюць

За ўвоз персанальнага камп'ютара будуць браць 10% мыта. Аднак цэны на рынку не зменяцца. Камп'ютары часцей за ўсё завозяцца ў выглядзе камплектуючых і збіраюцца на месцы. А на дэталі мыта няма.

### Кіёскі павінны «памерці»

Гандаль мусіць цалкам адмовіцца ад кіёскаў. Такую пазіцыю агучыў намеснік міністра гандлю Вячаслаў Драгун. На яго думку, кіёскі павінны «плаўна памерці», бо ў іх няма ані ўмоваў для працы людзей, ані для захоўвання тавараў.

### Вытворчасць піва ўпала

У 2012 годзе вытворчасць піва знізілася на 9%. Аб'ёмы нарасціла толькі «Лідскае піва». А вось упалі аб'ёмы вытворчасці найбольш на «Брэсцкім піве» — аж на 41,8%. Продажы піва скараціліся на ўнутраным рынку. Затое экспарт вырас.

### Лукашэнка разагнаў інвестараў «Камволя»

Пасля скандальнага візіту Аляксандра Лукашэнкі на ААТ «Камволь» турэцкі інвестар адмовіўся ад рэалізацыі праекта па будаўніцтве на прадпрыемстве вытворчасці тканін магутнасцю 4 мільёны пагонных метраў за год. Цяпер няма ніводнага замежнага інвестара, зацікаўленага ў праекце. Візіт Лукашэнкі на «Камволь» скончыўся звальненнем кіраўніка канцэрна і ягонага намесніка, а таксама зменай гендырэктара прадпрыемства.

### ВУП утрая горшы за план

Афіцыйны рост ВУП па выніках 2012 склаў усяго 1,5%, прытым што план прадугледжваў 5—5,5%, росту, як і летась. Гэта найгоршы паказчык за апошнія тры гады.

**ЯМ**

# Унучкі Лукашэнкі хочуць больш беларускай мовы ў школе

Настасся і Дар’я **перамаглі ў літаратурным конкурсе** музея Якуба Коласа.

У музеі Якуба Коласа 18 студзеня ўзнагароджвалі пераможцаў літаратурнага конкурсу «Гуляй, зіма, твая часіна!». Зала была перапоўненая. Яшчэ б: дыпломы пераможцаў атрымлівалі Дар’я і Настасся Лукашэнкі — унучкі афіцыйнага кіраўніка дзяржавы.

Яны перамаглі ў катэгорыі «Творчыя работы малодшых школьнікаў». Дзяўчаткі сказалі, што беларускай мове іх вучаць настаўнікі і выказалі пажаданне, каб у школе было больш занятканў беларускай. Дома ж Дар’я і Настасся, як прызналіся, размаўляюць з бацькамі па-расейску. Іх бацька — кіраўнік Прэзідэнцкага спартыўнага клуба Дзмітрый Лукашэнка.

Другое месца ў катэгорыі «Творчыя работы малодшых школьнікаў 1—3 класаў» заняў другакласнік Алесь Клікуноў —

## Дар’я і Настасся даслалі апавяданне пра снегавіка і казку пра аднарога

сын перакладчыка Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэя Клікунова, трэцяе месца дасталося другакласніку Яраміру Мядзведзеву з мінскай 16-й гімназіі — тамсама, дарэчы, навучаюцца і ўнучкі Лукашэнкі.

У катэгорыі «Творчыя работы школьнікаў 4—5 класаў» перамаглі Максім Краўчанка, Уладзімір Кошкін (першае і другое месца адпаведна), а таксама Юлія Казак і Уладзіслаў Анікевіч (трэцяе месца).

Конкурс музей Якуба Коласа ладзіў у гонар 130-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. Другакласніца Дар’я і трэцякласніца Настасся даслалі на спаборніцтва апавяданне пра снегавіка і казку пра аднарога. Пісалі яны па-беларуску. Брала ўдзел і маці: «Матуля дапамагала перакладаць некаторыя словы з расейскай на беларускую», — распавяла Дар’я.

«Мне вельмі спадабаліся іх казкі, і я ўнёс прапанову прысудзіць ім першае месца, — распавёў старшыня журы, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі. — Яны таленавітыя дзяўчаткі. Я прыдзірліва шукаў у некаторых сачыненнях, дзе не стаіць коска, дзе не пастаўленая тая ці іншая літара, і мне было прыемна, што тыя, хто перамог, якраз вельмі хораша справіліся з роднай мовай».

На імпрэзу дзяўчатак прывезла мама — Ганна Лукашэнка (Баравікова). Іх суправаджалі два ахоўнікі. Журналістаў сабралася столькі, што не ўсім хапіла месца ў асноўнай зале. Дар’я і Настасся нават падчас афіцыйных прамоваў гарэзілі і ўсміхаліся. Але ж паразмаўляць з дзяўчатамі было амаль немагчыма: ад журналістаў іх ахоўвала маці, якая не дазваляла задаваць дзяўчаткам нават самыя бяскрыўдныя і нейтральныя пытанні.

Сама Ганна Лукашэнка ўвогуле адмаўлялася ад любых каментароў. Рабіла яна гэта тактоўна, выбачалася па-беларуску і ўвесь час усміхалася. Жонка Дзмітрыя Лукашэнкі, якая займае пасаду намесніка генеральнага дырэктара па маркетынгу ў кампаніі «Юнівест-М» мільянера Анатоля Тарнаўскага, была апранутая вельмі сціпла. Яна паводзіла сябе прыязна і ветліва, перамаўлялася з іншымі дзеткамі, якія сядзелі побач, і са старшынёй журы Уладзімірам Ліпскім, які ўзнагароджваў пераможцаў разам з дырэктаркай музея Зінаідай Камароўскай.

Апошнім часам сем’і сыноў кіраўніка дзяржавы пачалі з’яўляцца на публіцы. Перад Новым годам Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі з жонкамі і дзецьмі наведалі шматдзетную сям’ю і дзіцячыя інтэрнаты.

**Ганна Бадзяка**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Старэйшая Настасся (справа) і малодшая Дар’я (у цэнтры) гарэзнічалі з іншымі дзецьмі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дзядуля дзяўчатак на ўзнагароджанне не прыйшоў.

# Следчы камітэт прызнаў вінаватым крыўдзіцеля наваполацкай кантралёркі

Аляксандру Блінову пагражае **да 5 гадоў турмы**.

Следчыя ўгледзелі віну крыўдзіцеля кантралёра ў Наваполацку, а дзеянні самога кантралёра палічылі правамоцнымі, заявіў начальнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Уладзімір Шалухін. Ён назваў дзеянні пасажыра «сярэднявечнымі метадамі расправы, недапушчальнымі ў прававым грамадстве».





Справа неўзабаве будзе перададзеная спачатку ў пракуратуру, а потым у суд.

Аляксандр Бліноў **(на фота)** пра высновы следчых даведаўся ад карэспандэнта «НН». Па яго словах, пасля трох сутак, праведзеных у міліцыі, ён больш не кантактаваў з прадстаўнікамі праваахоўных органаў: «Працую, як і раней. Ніякіх павестак не атрымліваў, пра дату суда не ведаю».

Аляксандр па-ранейшаму перакананы, што выпадак у аўтобусе быў непазбежнасцю. «Калі б не я, то нехта іншы рана ці позна гэта б зрабіў». Малады чалавек рэалістычна ставіцца да магчымага фіналу справы. «Я ўжо нічога не змяню — ні час назад не адкручу, ні ў іншы аўтобус не перасяду».

Нагадаем, 26 лістапада ў Наваполацку ў гарадскім аўтобусе ўзнік канфлікт паміж пасажырамі і кантралёркай. За сям’ю заступіўся пасажыр. Ён схапіў кантралёрку за валасы і трымаў яе, пакуль сям’я не выйшла з аўтобуса. Аматарскае відэа інцыдэнту трапіла ў інтэрнэт, і гісторыя ў наваполацкім аўтобусе выбухнула на ўсю краіну.

**Сямён Печанко**

# Сотні «людзей» сачылі за пенсіянерамі ў чэргах па валюту

Лукашэнка асабіста **зацікавіўся пакупнікамі даляраў.**

У часе прэс-канферэнцыі 15 студзеня Аляксандр Лукашэнка заявіў, што месяц таму паставіў задачу: даць яму звесткі пра людзей, якія прыходзяць у абменнікі і купляюць валюту. «Калі праманіторылі гэтую сітуацыю — сотні людзей былі задзейнічаныя, — аказалася, што ў асноўным пенсіянеры 10 даляраў, 5 даляраў купляюць. Я тады пачынаю думаць: вось нагнятаюць, нагнятаюць сітуацыю», — прызнаўся Лукашэнка.

Застаецца пытаннем, а для чаго было задзейнічаць сотні людзей — з кантэксту вынікае, што супрацоўнікаў спецслужбаў — для маніторынгу абменнікаў? Валюту ў краіне прадаюць па пашпартах. Гэта значыць, што звесткі пра людзей, якія набываюць валюту, і так даступныя кантрольным органам.

А вось навошта беларускім пенсіянерам валюта, паспрабаваў адказаць Уладзімір Някляеў. «Мой сусед-пенсіянер, які штомесяц купляе некалькі даляраў, можа гэта патлумачыць. Ён кажа: «Раней збіраў на жыццё, цяпер — на смерць». На смерць купляюць даляры. На пахаванне іх збіраюць. Не аднойчы ўжо абрабаваныя, людзі не вераць, што іх не абрабуюць яшчэ раз. Што рублі не стануць такімі паперкамі, за якія не тое што труну — папяровыя кветкі не купіш», — тлумачыць ён.

**МБ**

# Прызыў ці не прызыў?



Міністэрства абароны Беларусі набірае і кантрактнікаў, але ахвотных служыць бракуе.

У 2013 годзе ва Украіне будзе прыпынены прызыў на тэрміновую ваенную службу. Армію будуць набіраць выключна па кантракце. Пра гэта заявіў новы міністр абароны краіны Павел Лебедзеў. «Як гэта зроблена сёння ў вядучых краінах свету», — дадаў ён. Сапраўды, у ЗША і Германіі служаць цяпер добраахвотна.

Але, напрыклад, у Ізраілі і Швейцарыі прызыў ніхто не адмяняў. У Ізраілі абавязаныя адслужыць нават жанчыны, бо краіна мае варожае атачэнне. Швейцарыя ж абараняе свой нейтралітэт. Таму вайсковая дактрына краіны, лічы, ад Сярэднявечча, нязменна прадугледжвае ўсеагульную службу. Рэзервісты трымаюць зброю дома, а ў краіне збудавана нямала абарончай інфраструктуры.

Тое самае ў Фінляндыі і Нарвегіі. Гэтыя краіны дагэтуль памятаюць савецка-фінскую вайну. Каб не ўсеагульная вайсковая падрыхтоўка, былі б Хельсінкі сталіцай 16-й савецкай рэспублікі.

Аўстрыя таксама на рэферэндуме вырашыла: прызыў захаваць. Праўда, служаць там толькі паўгода і «дзяржаўнай ідэалогіі» там не вучаць. Існуе магчымасць і альтэрнатыўнай службы (9 месяцаў).

**У Беларусі можа з'явіцца альтэрнатыўная служба**

Сёлета плануецца распрацаваць законапраект "Аб альтэрнатыўнай службе". Адпаведны загад падпісаў Лукашэнка.

Украінская армія налічвае 192 тысячы чалавек, з якіх вайскоўцы складаюць тры чвэрці. Гэта 5-е па колькасці чалавек войска ў Еўропе. Згодна з планамі Мінабароны Украіны, цягам наступных 5 год войска мусіць скараціцца да 70 тысяч чалавек.

Грузія таксама плануе перавесці сваё войска на кантракт — але праз чатыры гады.

А што ж Беларусь? Наша краіна ўваходзіць у лік краін, дзе вайсковы прызыў з'яўляецца абавязковым. Працягласць тэрміновай службы складае 1 год для хлопцаў з вышэйшай і 1,5 года — з сярэдняй адукацыяй. Абавязковаму прызыву на тэрміновую службу, а таксама службу ў рэзерве падлягаюць маладыя людзі ад 18 да 27 год. Пераход да прафесійнага войска не плануецца.

**Сямён Печанко**

| Адмовіліся ад прызыву | Захоўваецца абавязковы прызыў |
|---|---|
| ЗША | Беларусь |
| Нямеччына | Расія |
| Літва | Фінляндыя |
| Латвія | Аўстрыя |
| Швецыя | Нарвегія |
| Балгарыя | Швейцарыя |
| Кітай | Ізраіль |
| Францыя | Паўночная Карэя |
| Вялікабрытанія | Паўднёвая Карэя |
| Японія | |





**Вачыма вайскоўца**

# «Партызаны» сябе добра зарэкамендавалі

Афіцэр запасу расказаў, **чаму трэба захаваць** абавязковы прызыў у войска.

Капітан запасу Ігар Гавіна праслужыў ад 2005 да 2010, адзін год выконваў абавязкі афіцэра па інфармацыйна-прапагандысцкай працы. Захаванне прызыву ў Беларусі актуальнае, перакананы ён. Ігар тлумачыць: прызыў неабходны для папаўнення вайсковага запасу, так званых «партызанаў». Па яго назіраннях, апошнія някепска зарэкамендавалі сябе ў часе маштабных вучэнняў апошніх гадоў. Разам з тым, застаецца пытанне, якімі мусяць быць суадносіны колькасці прызыўнікоў і кантрактнікаў.

Да службы ў рэзерве Ігар ставіцца досыць скептычна. Напрыклад, рэзервісты-снайперы паспяваюць досыць павучыцца тэорыі, а на практыку ім даецца вобмаль часу.

Хто сёння служыць у войску? Ігар адзначае, што ў пяхоце зусім мізэрны працэнт прызыўнікоў з вышэйшай адукацыяй. Часам адзін чалавек на тры прызывы. Найчасцей гэта хлопцы з простых, часта няпоўных сем'яў, вяскоўцы.

## «Неабходна пашыраць практыку выкарыстання працы грамадзянскага персаналу»

Як можна скараціць колькасць прызыўнікоў? Найперш за кошт падраздзяленняў, у якіх малады салдат асноўную частку службы абірае бульбу і мые падлогу. «Неабходна пашыраць практыку выкарыстання працы грамадзянскага персаналу», — упэўнены капітан Гавіна.

**СП**

**Войска беларусізуе ці русіфікуе?**

Войска адыгрывае пазітыўную ролю для дзяржаўнага будаўніцтва, калі яно ўмацоўвае ў прызыўніках іх нацыянальнае «я». І наадварот, войска, дзе гэтае «я» размываецца, рыхтуе глебу для разбурэння гэтай дзяржавы ў суседняй. Як з гэтым ідуць справы ў беларускім войску?

Капітан запасу Ігар Гавіна мяркуе, што ментальна наша войска робіцца ўсё больш беларускім. Але нацыянальнай мовы ў ім усё яшчэ замала: і ў паўсядзённасці, і ў дакументацыі, і ў афіцыйных адносінах. Застаюцца затое рэшткі каланіяльнай спадчыны ў выглядзе традыцыі адлічваць пачатак існавання пэўнага роду войскаў ад Пятра І. Хоць той Пётр І у Беларусі бываў толькі праходам.

Разам з тым, у войску ўсё часцей згадваюць і пра ўласныя вайсковыя традыцыі і герояў.

# Адкуль бяруцца эліты?

Заняпад усіх цывілізацый пачынаўся з адмены ўсеагульнай вайсковай павіннасці. Піша гісторык **Алесь Белы**.



У адным з рэпартажаў пра амерыканскіх вайскоўцаў у Афганістане не заўважыў ніводнага «англасаксонскага» твару: спрэс афраамерыканцы, «лацінасы», кітайцы... Не, я не расіст. Гэта чыста суб'ектыўнае ўражанне, падмацаванае гістарычнай эрудыцыяй: рана ці позна багатая і ўплывовая эліта любой дзяржавы пачынае «адкупляцца» ад вайсковай службы і іншых непрыемных дзяржаўных абавязкаў, наймаючы для іх выканання людзей з сацыяльных нізоў, часта імігрантаў.

Прыгадалася гісторыя доўгага гніення і распаду Рымскай Імперыі.

Дасягнуўшы найбольшага магчымага дабрабыту, рымская кіруючая эліта пачала трапляць ва ўсё большую залежнасць ад легіёнаў, набраных з «варвараў». Неабдымная прастора Імперыі вельмі таму спрыяла: каб рабіць кар'еру, весці буйныя гаспадарчыя справы, быць у курсе ўсіх модных і эратычных навінаў, трэба стала жыць у сталіцы, а войска вядзе войны на далёкай перыферыі і нават высокая камандная пасада — не гарантыя ад гібелі.

З часам варвары пачынаюць рабіць вайсковую кар'еру, усталёўваць сувязі са спадчыннымі элітамі, а калі дзяржава слабне — кідаюць выклік істэблішменту і захопліваюць уладу. Часта гэта распачынае чараду бясконцых пераваротаў і ўзурпацый, што перамяжаюцца рэстаўрацыямі.

Зрэшты, так распалася не толькі Рымская Імперыя.

Старажытная Русь сталася лёгкай здабычай Арды найперш таму, што ўжо была аслабленая працяглымі княскімі міжусобіцамі, у якіх усё большую ролю адыгрывалі розныя «нацмены», — ад цюркаў да літоўцаў.

Па іншым сцэнары, але з захаваннем пэўнай агульнай заканамернасці, занепадала і наша Рэч Паспалітая.

Тэарэтычна падставай для беспрэцэдэнтных прававых і гаспадарчых льготаў, якія мела шляхта Рэчы Паспалітай, быў абавязак вайсковай службы. Але на самой справе ўжо ў XVI ст. наёмнае войска адыгрывала ўсё большую ролю ў ваенных кампаніях, а ўласная эліта ўсё ў большай ступені засяроджвалася на карыстанні тымі самымі льготамі, а зброю ўжывала найбольш, каб падзяліць іх паміж сабой.

І хаця варвары-наёмнікі ў Рэчы Паспалітай ніколі не ўзводзілі сваіх стаўленнікаў на каралеўскі трон, фактычная абыякавасць прывілеяваных грамадзянаў да вайсковых і іншых грамадзянскіх абавязкаў у выніку перадвырашыла непазбежнасць падзелаў Рэчы Паспалітай.

Над сучаснымі гіперспажывецкімі грамадствамі ўжо навісла дамоклавым мячом падобная пагроза.

У некаторых краінах ужо б'юць трывогу: нядаўна амбіцыйны расійскі віцэ-прэм'ер Дзмітры Рагозін агучыў планы «каршакоў» ва ўрадзе: забараніць усім, хто ўхіляецца ад вайсковай службы, займаць адказныя дзяржаўныя пасады. Аналагічную ініцыятыву агучваў уплывовы «адзінарос», выхадзец з Беларусі Франц Клінцэвіч. Зрэшты, іншы віцэ-прэм'ер, Уладзіслаў Суркоў, адразу ж запярэчыў калегу-канкурэнту, што такія заканадаўчыя ініцыятывы супярэчаць Канстытуцыі.

Эвалюцыя расійскага грамадства зайшла далёка: багатыя не тое што ў войску не служаць, але і імкнуцца прыстроіць сваіх дзяцей толькі вучыцца ў Лондане і працаваць у Сіці. А ледзь не ўсю некваліфікаваную працу ў Маскве, ад уборкі вуліц да абслугоўвання фастфудаў, робяць таджыкі і іншыя працавітыя «нацмены» з адной шостай часткі сушы.

Тым часам сумесная пастанова Мінабароны і Мінаховы здароўя Беларусі ад 1 жніўня 2012 № 33/85 забрала права на адтэрміноўку вайсковай службы ў гіпертонікаў і людзей, якія пакутуюць на скаліёз 2-й ступені, а таксама «язвеннікаў», калі няма перфарацыі і крывацёку, а абвастрэнні здараюцца не часцей за адзін раз у год. Так што ўжо ў кастрычніку 2012-га гіпертонікі, язвеннікі і сутулыя сталі «пад ружжо». Абгрунтоўваецца гэта «паляпшэннем стану беларускай медыцыны».

Але такія меры не вырашаюць пытання. У войска будуць ісці тады, калі гэта будзе прэстыжна. Калі служба будзе ўспрымацца як карыснае выпрабаванне, цікавы досвед, а не адбыццё павіннасці.

# Прыгажуня і страшыдла

Вікторыя Азаранка назвала скандальнага спевака Рэдфу **«каханнем усяго жыцця»**.




Першая ракетка свету, беларуска Вікторыя Азаранка, нядоўга заставалася адзінокай. Пару месяцаў таму яна развіталася з украінскім тэнісістам Сяргеем Бубкам-малодшым. Разрыў надышоў пасля таго, як Бубка ў Парыжы вываліўся з акна.

Цяпер 23-гадовую Вікторыю бачаць у абдымках скандальнага амерыканскага рэпера Рэдфу. «Гэта каханне ўсяго майго жыцця, — паспяшалася заявіць Азаранка. — Я сустракаюся з кімсьці асаблівым. Ён унікальны хлопец, і мы належым да дзвюх розных планет. Я не люблю хваліцца сваім асабістым жыццём, але я рада, што ён побач са мной».

Сапраўднае імя 37-гадовага спевака — Стэфан Кендал Гордзі, ён сын музычнага магната. Рэдфу разам з пляменнікам выступае ў дуэце LMFAO — гэту абрэвіятуру ў цэнзурным варыянце можна перакласці як «Абаржацца». Раней яны называліся «Сэксуальныя хлопцы». Іх песні прысвечаныя вечарынкам і выпіўцы.

**Сямён Цыбульскі**

# «Пуцін не здымаўся з Дзедам Хасанам»

Прэс-служба Уладзіміра Пуціна адхрышчваецца ад яго **знаёмства з крымінальнікам**.

Навіна нібыта з сярэдзіны 1990-х прыйшла 16 студзеня з Масквы: «75-гадовы Аслан Усаян, які выходзіў з рэстарана «Карэтны двор», быў паранены стрэламі са снайперскай вінтоўкі. Ахова спрабавала адстрэльвацца, а пасля вырашыла везці параненага ў бальніцу. У рэанімацыі ён памёр». Забіты быў крымінальным аўтарытэтам па мянушцы Дзед Хасан. Расійскія СМІ называлі яго найбуйнейшым у краіне «злодзеем у законе».





**Ці падобны чалавек ў цэнтры на сапраўднага Дзеда Хасана, а чалавек злева на Пуціна?**

Ён нарадзіўся ў Тбілісі і быў па нацыянальнасці курдам-езідам. Першы раз ён быў асуджаны ў 19 гадоў за супраціў міліцыі, пасля сядзеў за рабункі і спекуляцыі.

Грузінскія ўлады адмовіліся прымаць труну з целам і развярнулі самалёт на Маскву, дзе Усаян і быў пахаваны. Яго «паўнамоцтвы» будзе выконваць пляменнік па мянушцы Міро.

Пікантнасці сітуацыі дадаў апублікаваны здымак, на якім чалавек, падобны да Дзеда Хасана, і малады Уладзімір Пуцін стаяць побач за багатым сталом. Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі заявіў, што на фота — не Усаян, а хтосьці іншы.

**ЯМ**

# Глеб застаецца ў Беларусі



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Паміж нямецкімі клубамі і «Сіднэем» ён **абраў БАТЭ**.

Аляксандр Глеб усё ж падпісаў новы кантракт з барысаўскім БАТЭ. У гэтым клубе 31-гадовы футбаліст прабудзе да канца года. Перспектыўных прапановаў ад заходніх клубаў ён не дачакаўся, хоць інтарэс да беларуса праяўлялі некалькі нямецкіх і расійскіх каманд і нават экзатычны аўстралійскі «Сіднэй».

Глеб вярнуўся на радзіму ў ліпені 2012 пасля доўгай кар'еры за мяжой. Ён гуляў у славутых «Арсенале» і «Барселоне», яго прызнавалі найлепшым футбалістам Беларусі ў 2002—2003, а таксама 2005—2008.

З дапамогай Глеба БАТЭ прабіўся ў 1/16 Лігі Еўропы. Першая гульня з турэцкім «Фенербахчэ» адбудзецца 14 лютага ў Гродне.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**

### Новае пасведчанне кіроўцы Еўрасаюза

У Еўрасаюзе пачалі замяняць пасведчанні кіроўцаў нацыянальных узораў на агульнаеўрапейскае пасведчанне — пластыкавую картку адзінага ўзору. У яе ўбудаваны мікрачып, куды заносяцца дадзеныя аб іх уладальніку. Новы дакумент належыць абменьваць кожныя 10—15 гадоў, але пераздаваць пры гэтым экзамен па правілах дарожнага руху не давядзецца.

У краінах ЕС 300 мільёнаў кіроўцаў і цяпер дзейнічае больш за сто ўзораў пасведчанняў, што ўскладняе працу паліцыі. Абмен пасведчанняў будзе адбывацца да 2033 года, і да гэтага часу ў краінах ЕС не павінна застацца папяровых пасведчанняў кіроўцы.






**Камертон Сяргея Ваганава**

# Прабач, любімы горад...

Патэлефанаваў даўні знаёмы. «Не чуў? Зносяць Маскоўскі аўтавакзал! Трэба нешта рабіць...»

Мы сустрэліся. Трымаючыся за сэрца, мой знаёмы ледзь не плакаў, уяўляючы, з якімі пакутамі на сваім восьмым дзясятку ды пасля інфаркту будзе дабірацца на лецішча пад Лагойскам, калі на месцы вакзала ўзнімецца газпромаўскі хмарачос. «Трэба пісаць!» — заключыў ён.

Што пісаць?

Мой няшчасны знаёмы наіўна верыць, што Лукашэнка, калі з газетаў ды сайтаў даведаецца пра тое, як «падстаўляе» яго зварʼяцелае ад шалёных грошай чынавенства, пашкадуе ягонае хворае сэрца і не скалупне з мапы горада мо адно з найлепшых і зручнейшых яго збудаванняў...

Я глядзеў на яго і моўчкі пытаўся: «А дзе ж ты быў, калі зносілі старадаўні чыгуначны вакзал ды руйнавалі Нямігу? Чаму не енчыў, што трэба тэрмінова пісаць?»

Але раптам, бы халодная хваля: «А дзе ж быў я?..»

Прабач мне, любімы горад, але я быў дзіцем, калі ты пачынаў пасля вайны найноўшае жыццё. Аднойчы мама павяла мяне паглядзець на цябе, бо далей за двор свайго напаўразваленага дома я цябе ніколі не бачыў. Я бадзёра крочыў побач з ёй, пакуль не ўбачыў сярод крушняў будынак казачнай прыгажосці. Нейкі мужчына ў прапыленых ботах, шэрым шынялі і з рэчмяшком за плячыма глядзеў, узняўшы галаву, на калоны і раптам спыніў нас: «Прабачце, мадамачка, які гэта тэатр?» Матчын твар адразу набыў стрыманую пільнасць: «Гэта адміністрацыйны будынак». — «А-а-а», — з паразуменнем прамовіў мужчына, а я тузануў маці за руку: «Што гэта, што?» — «Сакрэт...»

І сёння, дарэчы, на галоўным уваходзе ў таямнічы «адміністрацыйны будынак», то бок КДБ, адпаведнай шыльды няма...

Прабач, мой горад, але тое, што адбываецца з табой сёння, пачыналася з першага, ажно з вясны 45-га, будынка таго «тэатра». Другім будынкам быў жылы дом насупраць, для сябе ж. Трэцім збудаваннем — «Дынама». Хто шкадаваў тады мінчукоў, што туліліся па сутарэннях, ацалелых хатках ды спехам збітых з дошак бараках? Сярод выжылых шукалі тых, каго можна было куды падалей саслаць...

> **«А дзе ж ты быў, калі зносілі старадаўні чыгуначны вакзал ды руйнавалі Нямігу?»**

Прабач мне, любімы горад, за тое дзіцячае захапленне тваім жахлівым нечалавечым пачаткам.

Але тое, з чаго ты пачынаўся, доўжылася, раскідваючы па свеце тваіх карэнных жыхароў, тваіх старажылаў, пакідаючы цябе без нашчадкаў. Прабач...

З цягам часу ты, вядома, узбагаціўся жыццём, працай і памяццю пакаленняў, набыў свой твар. Памятаеш, як я кпіў з твайго сталінскага ампіру? Прабач...

Але больш за ўсё прабач мне за тое, што я ізноў дазволіў уладарыць табой нашчадкам тых, хто разбіў калісьці «Хлопчыка з лебедзем» — вычварэнцам, хворым на забыццё, дурны густ, халуйскую зайздрасць і прагу да чужых грошай, на бязлітаснае ўдатычнасці да чалавечых патрэбаў, паводзін, надзеяў амбітнае самаўладдзе.

Прабач, што моўчкі назіраў, як руйнавалася Няміга, па якой хадзіў у школу...

Прабач, што не пратэставаў, калі зносілі стары чыгуначны вакзал, дзе пачыналіся мае падарожжы і адкуль я вяртаўся ў родны дом...

Прабач, што не лёг пад бульдозер, калі рушылася твая электрастанцыя, ад якой я ўбачыў першае пасля вайны мігатлівае святло...

Прабач, што не ўзяў рыдлёўку, каб засыпаць катлаван, пакуль высока ўзляцелы Чыж не забіў цябе, тваю гістарычную і нябёсную прастору...

Учора — Цанава. Сёння — Чыж. Заўтра — Мілер...

Ты разумееш, горад, што справа не ў архітэктурных, збольшага сумнеўных, вартасцях таго ці іншага твайго збудавання. Справа ў тым, што — ад таго кадэбісцкага «тэатра» да сённяшняга лужкоўскага «а-ля рюс» і будучага газпромаўскага «хайтэку» — чалавек ніколі не зʼяўляўся і не зʼяўляецца галоўнай, абсалютнай вартасцю. З ім можна рабіць што заўгодна — саслаць на варкуцінскія шахты, як пасля вайны, прыціснуць агромністым, на паўнеба, монстрам ці нават давесці да скону немагчымасцю зручна жыць.

А дзе няма чалавека, там няма грамадства. Каго здольныя ўвесці ў зман так званыя грамадскія слуханні, калі на ўсю моц працуе сістэма здушэння чалавечых правоў? Глядзі, горад, як схапілася за гэту ілюзію дэмакратыі чынавенства, як правакуе гучныя, на ўсю краіну, скандалы вакол лакальных праектаў, якія не вырашаюць твой лёс, каб цішком, пад выглядам нібыта выратавальных інвестыцый, зацвердзіць нахабнае ўладаранне замежных, па большасці расійскіх грошай. А праз іх — чужынскае, каланіяльнае, па сутнасці, тваё становішча, горад, дзе побач з біццём сябе ў грудзі «Я люблю цябе, Беларусь!» пырхае ва ўсе бакі «Финская обувь для русской зимы»...

Што ж дзівіцца, калі цябе канчаткова прыдушыць газпромаўскі хмарачос?!

Не, мой любімы горад, прабач.

Прабач за тое, што ты стаўся такі нялюбы...

# «Мяне скінуць з 9-га паверха або цэглай па галаве…»

Апошні палёт гродзенскага паэта **Юрыя Гуменюка**.



Увечары 19 студзеня Юрый Гумянюк выпаў з дзявятага паверха інтэрната. Ад дома Гуменюкоў, дабротнага дома на вуліцы Веры Харужай, да 9-паверховага інтэрната, дзе загінуў Юрый, метраў 250.

43-гадовы Гумянюк жыў разам з мамай Хрысцінай Казіміраўнай у дзедаўскім доме ў гродзенскім раёне Пярэселка.

«Мы разам выйшлі, у пляменніцы дзень нараджэння быў, і зайшлі ў аптэку валідолу купіць, — расказвае мама. — Ён кажа ў аптэцы: мама, мне так халодна. Я кажу: ну дык давай вернемся дахаты. У аптэцы былі хлопцы, суседзі, перагаварыў з імі. І не стаў мяне чакаць, выбег. Я выйшла з аптэкі. Прыйшла дахаты, а яго няма. Думаю: ну дзе ён падзеўся? Халадэча такая: чакаю-чакаю, яго няма, а мабільніка ён не ўзяў. І я не ведала, дзе ён і што. Міліцыя прыехала а палове 12-й і што сказала? Што ён паслізнуўся і ўпаў з дзявятага паверха...»

Ад аптэкі да інтэрната метраў 300–350, яна знаходзіцца на рагу бульвара Ленінскага камсамола і праспекта Будаўнікоў.

У Следчым камітэце па Гродзенскай вобласці пакуль не даюць каментароў: «Вядзецца праверка, версія ўдакладняецца». Але ж асноўная — самагубства.

Па словах маці паэта, у той вечар сын быў «расстроены».

Ёсць сведка, жыхар інтэрната, які сцвярджае: «Ён як на кухню зайшоў, так проста і пайшоў праз балкон. Там блок: восем пакояў і кухня, а ў кухні балкон...»

Юрый быў апрануты ў чорнае паліто, на галаве берэт, меў пры сабе торбу.

Некаторыя сябры паэта не вераць, што ён мог сам пайсці з жыцця. Іншыя дапускаюць такую смерць.

Галоўны мастак Гродзенскага абласнога драмтэатра Алесь Сураў расказвае: «Калі я пачуў пра гэта, я адразу падумаў пра самагубства».

Спасылаецца на прыгнечанасць Юрыя бытавымі справамі. «Адчуваўся ў ягоным жыцці тупік у многіх кірунках: і ў творчым, і ў працы, і ў пабытовым — у сітуацыі з домам, за які ён судзіўся з родзічамі. Яны адсудзілі так, што пасля таго, як памрэ маці Гуменюка, паўдома пяройдзе сваякам».

Цяпер сябры прыгадваюць словы Юрыя пра пагрозы забіць яго. Алесь Сураў таксама чуў гэта. Але не верыў. «Калі казаць далікатна, — зауважае гродзенскі карэспандэнт радыё «Свабода», — сябры заўважалі ў Гуменюка праявы маніі пераследу. Ён казаў, што яму нібыта пагражалі, што зусім забяруць дом, нават заб'юць. Пра гэта ён гаварыў некалькі гадоў запар».

Сураў лічыць, што ў выпадку Гуменюка мог быць перасьлед з іншага боку: з-за яго сэксуальнай арыентацыі. Але гэта была не пагроза жыццю, не пагроза смерці.

«Ён такім манерным паэтам быў», — успамінае Сураў.

Тэма смерці, наканавання мастака, згасання чалавечага «я» прасякае вершы паэта.

«І я думаю, — кажа Сураў, — ён усё-ткі вырашыў пайсці з жыцця на ўзроўні тых паэтаў, якіх вельмі любіў. Ён лічыў за гонар для паэта памерці менавіта так, як ён хоча і з такім эфектам. А ўсё бытавое давяло да таго, што ён сказаў: цяпер хіба што той час, каб застацца ў памяці паэтам...»

Вахцёрка інтэрната, дзе загінуў Юры Гумянюк, расказвае: «Там яшчэ на балконе вяроўкі віселі, ён усе вяроўкі парваў. Каб упаў у гурбу снегу, то, можа, жывы застаўся б. Упаў проста на галаву, плазам галавой уніз, аб асфальт. Як плывец падае ў ваду, як я зразумела. Сказалі, з галавы нічога не засталося».

«Ён быў добрым да людзей. Што здарылася, не ведаю», — плача маці паэта.

**Кастусь Матушыч; у матэрыяле выкарыстаныя матэрыялы гродзенскага карэспандэнта радыё «Свабода»**

### Спачуванні праз nn.by

Ён быў цікавым, цікаўным і глыбокім чалавекам. Светлая памяць, Гарадзенец!
**Дзмітры Вінчэўскі, Гродна**

Вельмі сумная навіна... Ён — Паэт.
**Зміцер Вішнёў**

Як жа шкада... Навошта так заўчасна адыходзяць Паэты? Як і Эдзік Мазько... Светлая памяць. Шчырыя спачуванні родным і блізкім.
**Іна Соркіна, Гродна**

Адкрыў яго творчасць для сябе ў 90-я, калі на вочы трапіў ягоны зборнік «Твар Тутанхамона». Былі перыяды ў жыцці, калі радкі з гэтай кніжыцы дапамагалі жыць. Шкада, рана ён пайшоў...

Некалі, яшчэ ў тыя ж 90-я, у мяне нарадзіліся гэткія радкі:

«Як прыйдзе мая канчына,
Пакіньце балкон адчынены,
Каб меў я магчымасць душою
Пранесціся над зямлёю —
Над Гродняй, Гомляй, Віцебскам,
Магілёвам, Бярэсцем ды Менскам,
Паглядзець на абшары Айчыны
Вачыма душы-аблачыны,
Развітацца з маёю Краінай —
Хай даруе ўсе мне правіны...»
Даруем усе яму правіны...
Добры быў Паэт. Светлая памяць...
**Юрась Півуноў, Магілёў**

Жудасная навіна. Таленавіты чалавек і паэт...
**Аляксандр Фядута**

Шмат думак і меркаванняў, праклёнаў і высноваў... Але там, НАВЕРСЕ, разбяруцца і пакараюць вінаватых... Вечны адпачынак дай яму Пане, а святло вечнае нехай яму свеціць — нехай адпачывае ў спакоі вечным.
**Руслан Равяка, Баранавічы**

Шчырыя спачуванні.
**Андрэй Чарнякевіч, Гродна**

Мае спачуванні, які жаль.
**Наталля Сліж, Гродна**

Вельмі недарэчная смерць. Самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім Юрася.
**Сяргей Піваварчык, Гродна**

Спачуваю…
**Мікола Раманаў, Антверпен**

Вельмі страшная навіна... Светлая памяць Юрку.
**Ігар Лялькоў**

Зямля Юрасю пухам. Спачуванні родным і блізкім.
**Ігар Чарнякевіч**

### «Не магу паверыць»

Юра не раз мне казаў, што яго хочуць забіць. Я ўспрымаў гэта з гумарам. Нават жартаваў наконт гэтага. Аднойчы я спытаў яго: «Ну што яны з табой зробяць?» «Скінуць з 9-га паверха або цэглай па галаве». Аднойчы мяне ўжо збілі да непрытомнасці», — адказаў ён.

І вось зараз хочуць давесці, што гэта было самагубства. Не магу ў гэта паверыць яшчэ і таму, што Юра вельмі любіў сваю старэнькую маці. Калі мы з ім летась у кастрычніку ездзілі ў Варшаву на прэзентацыю маёй новай кнігі, то Юра за дарогу тры разы ёй тэлефанаваў і амаль з дзіцячым замілаваннем распытваў, як яна сябе пачувае. І пасля гэтага пакінуць яе адну. Не магу паверыць.

**Алесь Аркуш, рэдактар часопіса «Калоссе», у якім найбольш друкаваўся Гумянюк**

### Лагодны дэндзі

У верасні ў Гродне здымалася кіно. Горад на пару дзён стаў Берлінам. Гуменюка запрасілі здымацца ў масоўцы.

На здымках ён адчуваў сябе нібы ў сваім часе: у паліто, пад капелюшом. Артыстычны выгляд яго цешыў, паэт павінен выглядаць менавіта так, лічыў ён: крыху старамодна, па-рэтраўску, у даваенным стылі.

Ён быў эстэтам, яму падабалася некалі называць сябе «лагодным дэндзі», сімвалісты, мадэрністы былых часоў былі яго ўлюбёнымі героямі.

**Сяргей Астраўцоў**

### Самагубствы

Сяргей Палуян (1910), Рыгор Семашкевіч (1982), Яўгенія Янішчыц (1940) — гэтыя тры беларускія літаратары скончылі жыццё самагубствам.

### Давядзенне да самагубства

Старшыня ўрада Аляксандр Чарвякоў (1937), старшыня ўрада Зміцер Жылуновіч (1937), прэзідэнт Акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі (1931) забілі сябе, каб уратавацца ад катаванняў у савецкіх турмах.

### Багема

Па страшным супадзенні, для багемы Гродна гэта не першы выпадак заўчаснай смерці. У 2005 самотнікам памёр журналіст Зміцер Кісель. А два гады таму раптоўна сышоў гісторык і паэт Едрусь Мазько. Ён, зрэшты, быў чалавекам зусім не багемным. Проста раптоўна на вуліцы спынілася сэрца.

### Юрый Гумянюк (1969—2013)

працаваў журналістам, але па пакліканні, па самаадчуванні быў паэтам.

Як журналіст працаваў на Беларускую рэдакцыю Польскага радыё. Слухачам ён быў вядомы пад псеўданімам Вацлаў Галімскі. Праграмы ягонага аўтарства ішлі таксама на незалежным радыё «Рацыя», што надае з Польшчы.

Гумянюк жыў экстравагантным, багемным жыццём, апранаўся як дэндзі.

Як паэт 43-гадовы Юры Гумянюк пісаў у спецыфічнай дэкадэнцкай манеры. Яго захапляла стылістыка і эстэтыка міжваеннага часу. Гумянюк быў яркім аўтарам з групы гродзенскіх мадэрністаў 1990-х. На 90-я прыпаў і пік ягонай творчай актыўнасці. Выдаў зборнікі вершаў «Водар цела», «Твар Тутанхамона», «Рытуал». У Гродзенскім тэатры лялек паставілі некалькі спектакляў па ягоных п'есах. Яго вершы клалі на музыку гродзенскія рок-гурты.

# Выбух газу зруйнаваў катэдж за $200 тысяч


Хто будзе аднаўляць дом — невядома.
СЯМЕН ПЕЧАНКО

**Гаспадар-інвалід** страціў усё, што меў.

Ад двухпавярховага дома, што месціўся ў элітным катэджным пасёлку Цнянка на вуліцы Пастаўскай у Мінску, мала што засталося. Пасля выбуху ён разваліўся як картачны дамок. Прычынай здарэння называецца ўцечка газу.

Гаспадар дома — ІП-шнік Уладзімір Скрабатовіч. Ён інвалід І групы: у 2008-м няўдала нырнуў у мора, і з таго часу ў яго паралізаваныя ногі і рукі. У будоўлю было ўкладзена каля $200 тысяч. «Уся сям'я дапамагала мне, гэта была мая надзея. Цяпер няма ні дома, ні грошай. Вось я сяджу ў інвалідным вазку — і гэта ўсё, што ў мяне засталося», — кажа ён.

Усе ягоныя прэтэнзіі — да кампаніі «Забудова», якая падводзіла камунікацыі. «Я цалкам аплаціў паслугі. Фактычна, дом быў гатовы да засялення ў снежні 2011, заставалася падвесці камунікацыі». Але забудоўшчык з дазволу мясцовай адміністрацыі некалькі разоў пераносіў тэрміны, апошні раз — на лета 2013. Прычына нібыта ў тым, што не ўсе дольшчыкі пасёлка заплацілі.

«Дом трэ было абаграваць, бо псавалася аздабленне. Таму сын прынёс туды абсталяванне. Прычына выбуху — уцечка газу. Мабыць, была праблема са шлангам, бо газавыя балоны засталіся цэлыя», — расказаў гаспадар. Ад выбуху пацярпеў рабочы, сябра сям'і, які працаваў у катэджы: «Ён у стабільна цяжкім стане, моцныя апёкі атрымаў. Але павінен пайсці на папраўку».

Скрабатовіч заўважае, што апынуўся ў дзіўнай сітуацыі. «Са свайго боку я выканаў усе пункты дамовы. Я прасіў перадаць дом мне ў эксплуатацыю, гатовы быў самастойна правесці камунікацыі, але не дазволілі. Адпаведна, не мог застрахаваць яго, бо не меў права на ўласнасць», — з жалем кажа мужчына. Цяпер ён спрабуе адстаяць свае правы праз суд.

Пазіцыя «Забудовы» наступная: Скрабатовіч з'яўляецца дольшчыкам, а не ўласнікам катэджа, таму выбух нанёс шкоду маёмасці «Забудовы». Да таго ж, на яго можа быць ускладзеная адказнасць за знаходжанне на аб'екце трэцяй асобы.

**Сямён Печанко**

## Вышук



18-гадовы мінчук на фота прасіў знаёмых узяць у растэрміноўку лічбавую тэхніку. Ён рабіў першы ўнёсак і даваў 100 тысяч рублёў за турботы. У той жа дзень ён прадаваў тэхніку на рынку за паўцаны і не разлічваўся па плацяжах. Каля 50 чалавек ужо звярнуліся з заявамі ў міліцыю, але пацярпелых значна больш.

Фрунзенскае РУУС Мінска шукае людзей, якія маглі пацярпець ад яго. Тэлефанаваць на: (017) 252-02-02.



У Мінску шукаюць жанчыну, якая падазраецца ў крадзяжы банкаўскіх картак. Жанчына 50—60-ці гадоў спрабавала зняць грошы ў банкамаце. У адным выпадку тое ўдалося, бо мела пін-код. У другім — фіяска. Затое трапіла ў камеры.

Фрунзенскае РУУС сталіцы шукае людзей, якія пазналі жанчыну. Тэлефанаваць на: (017) 252-02-02.



Расшукваецца Сяргей Топнікаў, ураджэнец в. Слабудка Пружанскага раёна. У сакавіку 2012 ён з'ехаў на заробкі ў Анапу (Расія). З таго часу ад яго няма вестак.

Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост 170—175 см, русыя валасы, на левым перадплеччы татуіроўка ў выглядзе сонца з прамянямі, на правым — змяя, на жываце — шнар пасля аперацыі на апендыцыт.

Хто ведае, дзе Сяргей цяпер, просьба патэлефанаваць: (01632) 9-03-46, (029) 578-38-45.



# Нарадзіла сына для таты-героя

Каб убачыць немаўля, шчаслівы бацька прыехаў у радзільню **на інвалідным вазку**.

Выратавальнік Павел Янушкевіч, што абварыўся падчас ліквідацыі прарыву трубаправода ў Гродне, стаў татам.

«Мы з малым адчуваем сябе цудоўна. Нарадзіўся сынок 12 студзеня ў 18.40. Вага — 3,39 кг, — кажа жонка Ірына. — Паша хоча яго назваць Захарам».

Каб сустрэць маму з сынам, 21-гадовы выратавальнік прыехаў з бальніцы на інвалідным вазку. Ён яшчэ сам не ачуняў пасля снежаньскай трагедыі.

«Увечары 19 студзеня нас выпісалі. Паша надта хацеў сустрэць. Але я і спадзявацца перастала на гэта, бо нядаўна толькі ў яго была аперацыя. І вы не ўяўляеце, які быў прыемны сюрпрыз, калі я з дзіцём спусцілася ў залу выпіскі, а там сярод родных і блізкіх нас чакаў татка! Не ўяўляю, колькі ён прыклаў сілаў, каб сесці ў вазок, але яму гэта ўдалося» — кажа Ірына.

Павел Янушкевіч ужо месяц знаходзіцца ў бальніцы. Ён атрымаў апёкі пятай часткі цела, праваліўшыся ў яміну з кіпенем, — спяшаўся на енк дзіцяці.

«Паўлу зрабілі ўжо дзве аперацыі па перасадцы скуры. Ідзе на папраўку. Дадому моцна хоча, асабліва цяпер. Магчыма, праз пару тыдняў яго выпішуць» — спадзяецца жонка.

**Сяргей Макарэвіч**

# Вярталася з памінак па брату і загінула ў папутцы

На аўто, што выкінула на сустрэчку, стаяла **летняя рызіна**.

Страшнае ДТЗ адбылося пад Ваўкавыскам. 45-гадовая жанчына за 30 дзён да трагедыі пахавала роднага брата, таму 12 студзеня замовіла памінкі па нябожчыку ў мястэчку Рось.

Пасля памінак ёй прыйшлося аўтастопам дабірацца назад у Ваўкавыск. Падабраў яе 25-гадовы хлопец на «Аўдзі-80». На невялікім завароце дарогі на мокрым асфальце «Аўдзі» выкінула на паласу сустрэчнага руху. 56-гадовы кіроўца сустрэчнага «Фіята Брава», які ехаў з жонкай, не змог зрэагаваць і адвесці машыну ў бок.

У выніку лабавога сутыкнення пасажырка «Аўдзі» памерла на месцы здарэння, кіроўцу выратаваць удалося. Абое не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

Мужа з жонкай з «Фіята» з рознымі траўмамі даставілі ў бальніцу, яны былі прышпіленыя.

На задняй восі «Аўдзі» на левым коле была ўсталяваная летняя гума, што і паспрыяла заносу машыны.

**Кастусь Матушыч**

# Экстрэмальнае Вадохрышча



У Гродне легкавік вынесла з абрыву ў раку.

Увечары 18 студзеня кіроўца «Фальксваген Гольф 2» ехаў па гістарычным цэнтры Гродна ўздоўж рэчкі Гараднічанкі. На выгіне заснежанай дарогі машыну панесла проста ў абрыў. Спыніць аўтамабіль не ўдалося, нягледзячы на невялікую хуткасць і 10-метровы тармазны шлях. «Гольф» сарваўся з кручы, падчас падзення двойчы перакуліўся і апынуўся ў рацэ.

У салоне знаходзіліся кіроўца і пасажыр. Яны не пацярпелі, бо абодва былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. Той вечар перад Вадохрышчам яны запомняць назаўжды.

**ЯМ**

## Сцісла

### МАЗ праваліўся пад лёд

Кіроўца МАЗа вырашыў кароткай дарогай пераехаць раку Чаква на Століншчыне. Ад'ехаў 30 метраў ад берага, і машына правалілася. Адзін з пасажыраў паспеў выскачыць з кабіны. Кіроўца і яго брат патанулі. МАЗ давялося выцягваць з пяціметровай глыбіні. Машына належыць мясцоваму СВК, дзе і працаваў кіроўца.

### Забойства шуфлем

Аднавяскоўцы выпівалі ў вёсцы Грушава Кобрынскага раёна. Слова за слова, пачалася сварка. Каб давесці сваю праўду, маладзейшы схапіўся за металічны шуфлік... Труп яго прыяцеля знайшлі на наступны дзень з мноствам сечаных ранаў. Падазраваны затрыманы. Раней яго судзілі за крадзяжы.

### 21-гадовага рабочага раздушыла прэсам

Аператара аўтаматычнай лініі заціснула ў прэсе на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве «Кронаспан» у Смаргоні. Выратавальнікі вызвалілі хлопца, але ён памёр пасля прыезду медыкаў.

### Вуліца Панамарэнкі ператварылася ў коўзанку

Суботнім ранкам у Мінску на вуліцы Панамарэнкі на 17-градусным марозе прарвала водаправод: вада ўраз ператварылася ў ледзяную кашу. ДАІ перакрыла гэты кавалак дарогі для легкавікоў. Камунальнікі прыбралі лёд з дапамогай пагрузчыка і мотапомпы.

### Усяго толькі стабілізатар

Падчас рамонту аднаго з дамоў камунальнікі Гомеля знайшлі ў падвале міну. Яна была ўмураваная ў падлогу. Чапаць яе самі не сталі, а выклікалі выратавальнікаў. Каб пачаць размініраванне, давялося эвакуяваць жыхароў гэтага дома і суседняга, а таксама наведнікаў крамы. Урэшце аказалася, што гэта была не міна, а толькі стабілізатар ад яе. Небяспекі ён не ўяўляў.

**КМ**

# Нас было няммнога

**Міхась Чарняўскі.**
Успаміны, якія ніколі раней не публікаваліся.



20 студзеня не стала Міхася Чарняўскага — гісторыка і археолага, аднаго з айцоў руху за незалежнасць. Ён адышоў без пары: яшчэ актыўна выкладаў ва ўніверсітэце, штолета праводзіў вялікія раскопкі. Анкалагічная хвароба, якую ён, здавалася, перамог, нечакана вярнулася. Прапануем вашай увазе частку ўспамінаў гісторыка, запісаных яго студэнтамі.

## Розныя веры — адна нацыя

Нарадзіўся я ў вёсцы Круці. Вёска праваслаўная, і ўсе тут лічылі сябе беларусамі. А пасля мы пераехалі на хутар Гінеўка. Хутар быў на ўсход ад Мядзела кіламетраў пяць. Там было многа хутароў розных. Мы былі праваслаўныя. На поўнач— каталікі, а справа былі чатыры хутары татарскія, Александровічы. Мы ўсе былі падобныя, нават татарчукі. Размаўлялі на аднолькавай мове, хадзілі калядаваць па ўсіх святах — праваслаўных, каталіцкіх. На каталіцкія, праваслаўныя Вялікадні яйкі збіралі. У мусульман, калі свята, яны частавалі нас. Калі свята каталіцкае было, мой бацька не араў каля мяжы, дзе каталікі. Так берагглі адзін аднаго.

Памятаю, у хаце гэта было. Бацька сядзіць, і я сяджу. Бацька пальцам піхае ў грудзі. Палец такі вялікі, з пазногцем. Піхае і кажа: «Ты беларус. Паўтары. Беларус». Кажу «белалус» — «р» яшчэ не вымаўляў. Вось гэта першы ўрок мне бацька даў, каб ведаў, хто такі. Вось такое стыхійнае было ўсведамленне, што я беларус.

## Лапіцкі

Пасля я дазнаўся пра Лапіцкага. Пайшоў у мядзельскую школу. Звычайная школа, беларуская. І прыносяць на ўрок батанікі малюнкі на шараватай паперы рознакаляровымі алоўкамі, прыгожа так зробленыя. Інфузорыі-туфелькі. Мне на перапынку старэйшыя мядзельскія хлопцы кажуць: «Маляваў Слаўка Лапіцкі. З нашай школы. Яго расстралялі за Беларусь». Мяне раптам гэта працяла. Значыць за Беларусь можна так быць, што могуць нават расстраляць!

У 1950-м летам яго расстралялі. А я скончыў пачатковую школу, чатырохгадовую. Гісторыя настолькі ўразіла, што сам пісаў улёткі: «Прэч расійскіх акупантаў». Ішоў у школу і па дарозе раскідваў. Шчасце, што была зіма, белыя лісткі ніхто не знайшоў... Бацькам было б за тое.

Улёткі Лапіцкага расклейвалі мядзельскія школьнікі. Іх з аўтаматамі забіралі з урокаў...

Я быў у дзявятым класе, калі брат вярнуўся з войска. Сядзім у святліцы. І брат да мяне звяртаецца: «А чего ты по-белорусскі говорішь? Надо по-русскі». Я як на яго вызверыўся: я беларус! І ты беларус! Брат, на восем гадоў старэйшы, разгубіўся... І я бачу, яму даходзіць нешта... Пасля мы былі з ім аднадумцамі.

## Будзем араць — і разаром

Мы былі сям'я, у прынцыпе, прасавецкая. Іграла ролю чыста меркантыльная сітуацыя: бацька купіў у растэрміноўку ў пані Козел-Паклеўскай хутар, 12 гектараў. Заплацілі адразу палавіну золатам, астатняе заклаў віленскі банк. Нашыя 12 га былі — адны ўзгоркі глiністыя: конь не мог уз'ехаць. Бацька араў заўжды з аднаго боку, каб адвальваць увесь час баразну ад узгорка. І казаў: я калі буду так араць, і вы будзеце, і вашыя дзеці-ўнукі так, мы, нарэшце, разаром гэтыя ўзгоркі, і ў нас будзе хутар роўны, на ім будзе нешта расці. Я глядзеў і думаў: Божа мой, колькі трэба будзе араць?!

Калі прыйшлі тыя саветы, банк ляснуў віленскі. І не трэ было плаціць. Бацька казаў, мы б ніколі не выплацілі. Такі благі быў ураджай на глiністых узгорках...

## Дваццаць зменаў улады

Бацька казаў: «Я перажыў за сваё жыццё нешта каля дваццаці зменаў улады». І загінаў палец — Мікалай II, потым быў Керанскі, пасля Керанскага прыйшоў кайзер, потым Ленін, потым прыйшоў на нейкі час Пілсудскі, потым зноў Ленін, потым літоўцы, як Ленін аддаў Нарачанскі край Літве, потым ізноў Пілсудскі прыйшоў, пасля прыйшлі тыя саветы, пасля прыйшлі немцы, пасля — гэтыя саветы ў 1944-м. Кажа, калі я перажыў дваццаць зменаў улады, хто дае гарантыі, што і 21-й не будзе змены? Нашто мне лезці ў гэтыя камуністы — вось такая ў яго была філасофія.

У 1950-я людзі чакалі вайны, чакалі амерыканцаў. Бывала, суседка бяжыць да нашай мяжы: «Маryля! Амерыканскія танкі ўжо ў Паставах!» Ці ў Мядзеле гром загрыміць — яна бяжыць: «Людцы! Амерыканскія танкі ідуць!»

## За гарызонт

Мне з дзяцінства хацелася падарожнічаць. Хутар, адзінота — я быў начытаны кніжкамі. Першыя мне бацька купляў. Яшчэ захавалася кніжка №3. Быў дэтэктарны прыёмнік, па якім ціхенька слухалі «Голас Амерыкі». Мама любіла... Там быў авальчык такі з надпісам «Дэтэктар № ...». Я яго намазваў і прыціскаў кніжку. Атрымлівалася пячатка «Дэтэктар № ...». Гэта быў мой ex libris дзіцячы.

Я выходзіў з дому ў школу, адкрываў кніжку. Пяць кіламетраў ішоў і чытаў... Або пасвіш кароў, а там балоты — велізарныя балоты — возера блакітнае, кругленькае як вока, сінія ўзгоркі, лясы, лясы, лясы. Было страшэннае жаданне пайсці за лясы, за гарызонт. Я не люблю доўга на адным месцы і раскопкі праводзіць. Люблю рукзак на плечы — і за гарызонт, у разведку.

Любіў падарожнічаць па картах— па Амазонцы, Паўднёвай Амерыцы... Яшчэ ж, калі быў малы, Амазонка ў вярхоўях была пункцірам паказаная, Антарктыда амаль уся пункцірам, Сібір Паўночная... Я думаў — каб толькі паспець, каб не адкрылі да мяне... Звычайныя мары, калі няма аднагодкаў, няма лазання па садах, гульняў у пікара, ты адзін у сваім свеце, тады гэта запаўняецца такімі вобразамі.

Як студэнтам быў, збіраў кніжкі нават па археалогіі Амерыкі, Афрыкі, хацеў інкаў капаць. Хацеў ісці на курс археалогіі Цэнтральнай Амерыкі, што адкрылі ў Маскве, але не прайшоў па палітычных матывах: быў беспартыйны. За мяжу тады пускалі членаў партыі, і каб быў яшчэ абавязкова сексот.

## Беларускі кантынент

Быў я ў дзясятым класе, калі пазнаёміўся са мной адзін хлопчык з суседняй вёскі. Ён быў у класе, можа, шостым. І ён прынёс мне беларускія кніжкі — на падстрэшку ў бацькі ці дзядзькі яго ляжалі. Гэта была хрэстаматыя па беларускай літаратуры і гісторыя літаратуры Гарэцкага. Я прачытаў сапраўднага Купалу, Коласа, Бядулю, Гаруна. Прачытаў дзясятак паэтаў, пісьменнікаў, якіх ніколі не чуў. Калі раней было нешта стыхійна і Лапіцкі як міф, то гэтыя кніжкі— гэта быў ужо навуковы грунт.

Зусім другая Беларусь раптам адкрылася. Калі я раней адчуваў на ўзроўні Мядзела пад сабой беларускі грунт, раптам пачаў адчуваць увесь кантынент беларускі.

Быў Саюз беларускіх патрыётаў у Глыбоцкай педвучэльні. Іх Бібліяй была «Беларусь учора і сяння» Найдзюка і Касяка, гісторыя Беларусі, якую вучылі ў школах у час акупацыі. Знайшлі на гарышчы, перадавалі як Евангелле з рук у рукі. А што цяпер? Цяпер цэлыя паліцы кніг з беларускай літаратурай і кожная, як тая, Найдзюка, такога ўзроўню. Маючы такую макралітаратуру, Беларусь ужо не згіне.

## Археалогія

Як я скончыў школу, прыехалі да нас геолагі маладыя, ім трэба быў работнік. Я з імі месяцы два пабадзяўся па Паўночнай Беларусі. Я шчыры быў да работы — такія шурфы закатваў! Пасля ўзялі мяне лабарантам у Інстытут геалогіі. Я добра працаваў, канечне. У экспедыцыі летняй быў з геолагамі ў Сібіры, золата шукалі, медзь... Зэкі там у іх былі рабочымі. Яны ўсе антысаветчыкі былі, першую антысавецкую адукацыю яны зрабілі.

Мне прапаноўвалі на геафак паступаць— казалі, толькі на двойкі не здай, прымем. Але я хацеў быць археолагам.

Яшчэ як вучыўся ў школе, на Мядзельшчыну прыехаў археолаг Мітрафанаў, правёў раскопкі ў нас на Чорнай Гары. Як яны паехалі, я заклаў шурфік невялічкі і знайшоў наканечнік кап'я. Гэта быў як знак для мяне.

Да археалогіі мусіць быць схільнасць — гэта не прышчапляецца. Адзін і хоча нібыта, а паходзіць, вымакне пару разоў, паляжыць з тэмпературай на печы ў бабкі — і ўсё, яго няма ў археалогіі. Некаму дадзена быць банкірам — я ніколі б не мог стаць, каб мяне застрэлілі, якім-небудзь камерсантам.

## Як мы адзін аднаго пазнавалі

Слухалі, хто гаворыць па-беларуску. Рэдка можна было пачуць, намнога радзей, чым цяпер... Або раз было: я на Мядзел купляю білет, а хлопец купляе на Узду. І бачу ў яго значок — Якуб Колас. Тады значкоў было — раз-два... Ленін або што-небудзь такое мускулістае, спартсмен-бягун... Я падыхожу, загаворваю... Так пазнавалі. Ці ў экспедыцыі дзе-небудзь заўважалі: калі гаспадары гавораць па-беларуску, кнігі дома ёсць, дзеці беларускамоўныя.

Працяг на старонцы 12.

**Міхась Чарняўскі**

(7.3.1938—20.01.2013) гісторык, археолаг, краязнаўца. Быў у тым гурце людзей, якія ў савецкі час у Мінску прынцыпова гаварылі па-беларуску і фармавалі падпольны рух за незалежнасць. Нарадзіўся ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна. Гісторыяй, археалогіяй захапіўся яшчэ ў дзяцінстве. Яшчэ ў юнацтве сутыкнуўся з улёткамі Смаргонска-Мядзельскага незалежніцкага падполля, групы Расціслава Лапіцкага. Яны выклікалі вялікія перажыванні ў душы падлетка, што і сам бачыў русіфікацыю і несправядлівасць савецкага рэжыму. Вучыўся ў Мінску, стаў навукоўцам. Быў удзельнікам Акадэмічнага асяродка беларускай інтэлігенцыі, разгромленага ў 1973–1974. Міхась Чарняўскі тады быў звольнены з працы, сутыкнуўся з КДБ. Нягледзячы на пераплёты ўласнага жыцця, Чарняўскі знаходзіў магчымасць падтрымліваць Уладзіміра Караткевіча, Ларысу Геніюш і дзясяткі простых беларускамоўных хлопцаў і дзяўчат, далучаў іх да грамадскай дзейнасці. У 1988–1989 Чарняўскі быў сярод стваральнікаў Народнага Фронту, адраджаў сацыял-дэмакратыю. Як навуковец вывучаў нёманскую археалагічную культуру і крывінскі варыянт нарвенскай культуры, даследаваў крэмнездабыўчыя шахты ў Ваўкавыскім раёне, помнікі каменнага і бронзавага веку ў іншых мясцінах Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы «Гісторыі беларускага мастацтва», «Археалогіі Беларусі». Кансультаваў энцыклапедыю «Археалогія і нумізматыка Беларусі» і Энцыклапедыю гісторыі Беларусі. Міхась Чарняўскі напісаў і захапляльныя дзіцячыя кнігі пра старажытныя часы: «Страла Расамахі», «Вогнепаклоннікі». Дзеля папулярызацыі забытых старонак гісторыі Беларусі напісаў кнігі «Правадыр крылатых вершнікаў Ян Кароль Хадкевіч», «Дзесяць бітваў» і «Як пошуг маланкі. Расціслаў Лапіцкі». Апошняя вяртала гісторыі забытае імя аднаго з удзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву.Гэтым летам Міхась Міхайлавіч збіраўся здзейсніць даўнюю мару — зладзіць раскопкі гарадзішча ў роднай вёсцы. Цяпер гэта мусіць зрабіць ягоны сын Ігар, таксама археолаг.

# Нас было нямнога

Працяг са старонкі 11.

Напрыклад, начавалі ў Ярэмічах у хаце ў такога Жука. Яго сын скончаў якраз школу. Бачу, што бацька — свядомы беларус, і сын беларускамоўны, будзе паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут. Даю адрас: будзеш у Мінску — можаш спыніцца ў мяне... Шукалі, падтрымлівалі сваіх.

### Пазняк

З Пазняком мы знайшлі магілу каліноўцаў у Плябані. Раз сядзім ля касцёла ў Красным. Нейкі дзядзька ідзе, разгаварыліся. А, кажа, ёсць побач, у Плябані, магіла мяцежнікаў. Прыходзім — дзікія кусты. Паляўнічым нажам прасякаў дарожку. Трапляем у цэнтр, на пагорак — бачым камень, паліраваны куб такі, з прозвішчамі: Бакшанскі, Ямант і высечанымі словамі Пілсудскага. Пры паляках, у 1920-я паставілі. Мы пасля сталі там рабіць суботнікі. Увялі ў вушы раённаму начальству, што можна помнік паставіць. Перад прыездам камісіі я спехам выкапаў яму і той камень кульнуў у яе — цытатай Пілсудскага ўніз. Каб пабачылі — збаяліся б ставіць помнік. А так прыцягнулі вайсковым цягачом вялізны валун, табліцу памятную павесілі— як выдраў пасля хтосьці і скраў...

Магілы паўстанцаў — не рэдкасць у Беларусі. У Куранцы за Вілейкай ёсць, на поўначы Карэліцкага раёна, шмат яшчэ дзе.

### Акадэмічны асяродак

Ён быў сапраўды акадэмічны. Мы збіралі кніжкі, шукалі, каму дапамагчы паступіць у ВНУ, ці некага загітаваць чыноўнікам стаць, ці некага прапхнуць у партыю. Таго самага Каханоўскага ціснулі доўга, каб уступіў у партыю. Казалі, што дзеля Беларусі, бо няма іншага выхаду. Казалі, што ўсе літоўскія нацыяналісты — камуністы. Каханоўскі стаў дырэктарам музея, многа добрага зрабіў. Міхася Ткачова мы таксама доўга ціснулі, каб уступіў у партыю. Стаў выкладчыкам, загадчыкам кафедры, потым дырэктарам «Энцыклапедыі».

У Вільню ўвесь час ездзілі, куплялі там кнігі — столькі было беларускай літаратуры! Я памятаю «Шляхам жыцця» Купалы, брашурку, штук 20, усе раздаў. Так раздаваў, што сабе не пакінуў ні адной.

### Жывец на вудзе ў рыбака

Хапала правакатараў. Раз у кнігарні «Дружба» я нешта купляю, размаўляю з прадавачкай па-беларуску. І тут падсуседжваецца хлопец, каржакаваты такі, марынарка ў яго, пад ёй цяльняшка, нібы толькі з марфлота. «А што гэта вы тут цікавіцеся?» — пытае па-беларуску. Я чую, што ён гаворыць з акцэнтам, то бок гэта яго не родная мова. Але разгаварыліся. І ён кажа: можа ведаеце, ёсць на Захадзе нейкая радыёстанцыя на беларускай мове... Я кажу: ды няўжо? Як цікава!

Ён мяне запрасіў дахаты. Харошая кватэра, багатая бібліятэка. Стаіць столік у куце, на ім «ЛіМа» стосік і вышываны ручнічок. Рытуальнае такое месца. Ён мне паказвае кнігі з аўтографамі Купалы, Чорнага, Чарота. Але выходзіць у іншы пакой і — чую — з дзецьмі па-расейску гаворыць. Значыць, або ў цябе комплекс абсалютны, ты затурканы ў сям'і, або беларускае— гэта не тваё, гэта жывец на вудзе ў рыбака.

Адкуль у яго была бібліятэка беларуская? Яго бацька быў у КГБ галоўным бухгалтарам. Калі канфіскоўвалі кніжкі рэпрэсаваных пісьменнікаў, ён выбіраў сабе найлепшыя...

Хоць да мяне добра ставіліся некаторыя агенты КГБ. Напрыклад, у Інстытуце этнаграфіі адзін прызнаўся пад чаркай, што ён капітан ажно. Вельмі добра працаваў у этнаграфіі. Напісаў пару харошых кніжак, мяне прасіў заўсёды, каб я рэдагаваў іх.

Ці адзін мой зямляк, з якім мы школьнікамі далі клятву змагацца за Беларусь... Яны студэнтамі стварылі «падпольны беларускі ўрад» — гулялі ў незалежную беларускую дзяржаву. КГБ гэта накрыла, павыключалі — і ў войска. А таго хлопца пакінулі. Ён таксама быў у нашым асяродку. Гаварыў пра незалежнасць. Хоць пра незалежнасць мала гаварылі.

Мы бачылі задачу ў тым, каб захаваць беларускі дух, спыніць дзікую русіфікацыю. Потым, калі пачаўся наш разгром і нас павыганялі адусюль, яго накіравалі ў Германію, у навуковую камандзіроўку. У той час толькі народнага пісьменніка маглі пусціць — і то разам з кадэбістам. Тут ужо і вожыку зразумела, на каго ён працаваў. Яго падлавілі падчас разгрому «ўрада». Сказалі: вылеціш з універсітэта, пойдзеш у войска, пасля ў калгас. Ён крывёю здабыў сабе месца ва ўніверсітэце. Добра вучыўся ў школе, быў сіратой — бацька загінуў на фронце, у зрэбным хадзіў, у рваным. Я яго не асуджаю.

На маім вяселлі ён стаў перад маёй жонкай на калені і сказаў: твой Міша такі патрыёт, я за яго на крыж пайду. Вось і пайшоў. У яго здарыўся параліч ног, ён курыў, дык яго знайшлі абгарэлага: не змог дацягнуцца да клямкі...

Або ў нас у інтэрнаце: прыходзіць адзін з суседняга пакоя і прапануе навучыць, як рабіць выбухоўку. Я кажу: ведаеш, пакуль не трэба. Калі прыйдзе час, я да цябе падыду. Потым адзін, скаціна, раптам загарэўся навучыць мяне друкаваць лістоўкі. Увесь час вось такое... Лісты ўсе перачытваліся, пераглядаліся. Падслухоўвалася ўсё, і таму мы, калі збіраліся, то рабілі ўсякія дні нараджэння. Калі так проста сабраліся некалькі пакояў — гэта ўжо бралі на заметку. Шпіянаж быў, абсалютнейшая, татальнейшая сочка.

### Дзякуй Богу, не пісалі спісаў

Мы чыталі расейскі самвыдат, але лічылі, што нам хапае сваёй работы, бо распыліцца яшчэ і на расейскую дэмакратыю — не было людзей на гэта. Нават калі чэхаславацкія падзеі былі, рашылі нічога не рабіць. У Маскве выйшлі, іх арыштавалі чалавек пяць, але мова руская не паменшылася ад гэтага. А нам нельга было падстаўляцца.

Нас было нямнога. Асяродак быў рассыпаны. Вось нейкая група, чалавек пяць. Недзе побач — другая. І адзін-два чалавекі з гэтай групкі былі ў той, першай. І так далей. Было ў нас на філалогіі некалькі чалавек, у Інстытуце літаратуры, у «Энцыклапедыі», у Педінстытуце, у ВІРТУ [ваенным вучылішчы, якое ў 1968 годзе пераўтвораць у ВІЗРУ, а ў незалежнай Беларусі яно стане асновай Вайсковай акадэміі], у Інстытуце геалогіі, у Віцебску ў тэатры група была, у Гродне... І дзякуй Богу — мы не пісалі ніякіх спісаў, не пакінулі ніводнай паперкі. Нас калі выганялі з працы, дык за нейкія рэчы, рэчы-доказы: напрыклад, Міколу Прашковіча — за ліст, мяне — за пераклад рукапісу Дзюбы «Нацыяналізм ці русіфікацыя»...

### Шызафрэнік і фанатык

Нас вінавацілі ў тым, што мы выступалі супраць лініі партыі ў нацыянальным пытанні. А лінія была — адзіны савецкі народ. А адзіны савецкі народ і на мове павінен размаўляць адзінай. Не па-чукоцку жён будзе размаўляць, вялікі савецкі народ... Гэтак казалі мне ў КГБ.

А я кажу: вы разумееце, у Інданэзіі каля сотні розных моў, там розныя-розныя нацыянальнасці, найбольшая — яванская, іх там недзе яванцаў працэнтаў 70, а дзяржаўнай моваю яны выбралі мову самага маленькага народа, каб не было нікому крыўдна. Чаму, я кажу, не выбраць чукоцкую мову для Савецкага Саюза? Вы — шызафрэнік, кажуць. Чукоцкай, па-мойму, я іх дабіў. Брэжнеў выступае на палітбюро на чукоцкай мове...

Мне жонка перад допытам усунула нейкія таблеткі, каб я трымаўся, можа, банальны цытрамон, і я так завёўся, што гаварыў, можа, паўдня з ім. Ну і нагаварыў. Не трэба балбатаць. Гэта мне была вялікая навука. Нават панёс на Караткевіча. Яны страшэнна хацелі прымазаць да нас Караткевіча. Хацелі стварыць, як калісьці стварылі Саюз вызвалення Беларусі, а Купалу зрабілі лідарам, калі Купала пасля допытаў разрэзаў сабе жывот. Яны хацелі зрабіць Караткевіча нашым лідарам. Я сказаў, што не лічу Караткевіча беларускім патрыётам: ён з жонкай размаўляе па-расейску. Мне сказалі: «вы фанатык».

### «Подвиг народа»

Групе з «Паддашку» было прасцей. Мастакам дазвалялася больш. Зянон казаў: я фатограф. Калі мяне звольняць, пад касцёл сяду, буду рабіць фота бабак, яны мне будуць яйкі з салам даваць. А навукоўцы, калі выганяюць з працы, ці пісьменнікі, калі перастаюць друкаваць, — іх ужо няма. Вось мяне выгналі, мяне абсалютна нідзе не друкавалі, на мяне нельга было спасылацца. Было пару калектыўных прац у друку. Суаўтар прыходзіць: Міша, ты не будзеш крыўдаваць, калі пад адным прозвішчам? Я кажу: ну, друкуй, друкуй... Ёсць спіс, каго «няма». Ты не жывы, ты мёртвы. Гэта было трошачкі дэнервавуёва...

Як выжыць? Пайшлі на фізічныя работы. Я хацеў уладкавацца вартаўніком у Батанічным садзе. Сказалі, сад Акадэміі навук — нізашто. Мяне ўладкавалі мастакі знаёмыя ў вытворча-мастацкі камбінат, дзе рабілі ўсю наглядную агітацыю для Мінска і Мінскай вобласці. Партрэты Брэжнева, стаханаўцаў, даярак... Мы збівалі шчыты, абшывалі фанерай і грунтавалі, а мастакі малявалі камуністаў з чырвонымі кніжачкамі. А мы потым іх развозілі і ставілі... Самая вялікая работа была на Круглай плошчы: лозунг «Подвиг народа бессмертен». Гэта яшчэ з майго часу. Гэта я рабіў яшчэ.

Я там з гэтых літараў зарабіў за пяць дзён столькі, колькі я зарабляў у інстытуце за месяц. Аддаваў жонцы грошы і астатнія дні быў вольны. Я займаўся яшчэ археалогіяй. Работнікі ЦК, якія былі нацыянал-камуністамі, казалі: праз год мы цябе вернем. Зараз не можам, бо гэта рашэнне Масквы...

### Караткевіч

Я збіраў кніжкі. Сярод мора зборнічкаў тоненькіх — «Вясне насустрач», «Глыбокае ворыва», «Высокая хваля», «Песня трактарыста» — раптам знаходжу кніжачку «Матчына душа». Дзікая назва, не савецкая. Чытаю першы верш. Чакаю — абавязкова пра партыю ці хоць пра ўдарніка ці даярку. І раптам «У векавечнай Бацькаўшчыне клёны нячутна пачынаюць абляцаць». Пагартаў. Ні аднаго трактарыста, ні адной даяркі. І я закахаўся ў гэтага аўтара. Калі прыехаў у Мінск, Арсень Ліс, іншыя, кажуць: гэта наш знаёмы.

У яго вельмі цікавыя былі вочы. У яго ўвесь твар быў такі: быццам скульптар рабіў трошкі п'янаваты. Не класічны твар. Вельмі арыгінальны. Нават вочы рознакаляровыя былі. Вельмі ўважлівыя. Яны ўсё гаварылі...

### Прарок адраджэння і расейскамоўная кабета

Выйшла «Дзікае паляванне караля Стаха» ў «Маладосці». А я пайшоў у аспірантуру з такой Валяй Нікіцінай, а дзявочае яе прозвішча было, па-мойму, Валадковіч, са шляхты берасцейскай. Яна працавала ў Брэсцкім музеі, потым узялі яе ў Маскву, яна там была два гады, пісала дысертацыю, ну і стала адчуваць сябе масквічкай. Наша начальства яе незалюбіла: не трэба нам тут ганарыстая, хай едзе, дзе была. І яна страшэнна забітая тым, што трэба вяртацца ў Брэст.

Яна дэтэктывы любіла, дык я кажу: во дэтэктыў, каб на душы лягчэй было... Праз пару гадоў Караткевіч прыехаў у Брэст выступаць, яны пазнаёміліся, перапісваліся, перазвоньваліся і так пажаніліся. Валодзя мяне называў «сват».

Ён натурай быў настолькі тонкай. Казаў: у мяне як бы садрана скура і ў мяне кожны нерв на паверхні. І мне ад усяго, што я бачу вокам, так баліць, што мне хочацца крычаць. І тады, калі я вып'ю крыху, я прыглушаю гэты крык, гэты боль і тады магу сесці за стол і вярнуцца да сваіх герояў, я толькі тады адключаюся. А на маё бурчанне, што «ты замнога п'еш» і «ты не сабе належыш, ты належыш Беларусі», ён казаў: «Божа, якія вы, заходнікі, зануды».

### Жонак беларусізавалі

У нашым акадэмічным асяроддзі не было дзяўчат беларускамоўных. Мы сабраліся аднойчы, хлапчукоў пяць, Арсень Ліс кажа: у мяне ёсць аднакласніца на беларускай філалогіі, у іх цэлы пакой філалагінь з беларускага аддзялення. Мы кажам: нарэшце хоць з дзеўкамі пабудзем роднымі па духу, мове. І мы заходзім. Прыгожыя дзеўкі. Канспекты раскладзеныя. Падымаюць: «А, ребята, как хорошо, что вы пришли...» Для нас гэта было ўдарам. Як у боксе. Пасядзелі хвілін дваццаць і пайшлі.

Усе жаніліся з расейскамоўнымі. Арсень — з дачкой палкоўніка. Я — з дачкой партыйнага работніка. Але мы бачылі, што яны на вачах беларусізуюцца. Вось мая Света ведала абсалютна ўсе мае перакананні — палітычныя, нацыянальныя, і я ўбачыў, што яна падзяляе іх. Спачатку яна гаварыла па-беларуску толькі са мной, пры чужых у яе комплекс быў, саромелася, што дрэнна гаворыць. Гэта доўгі час працягвалася. Можа, гадоў дваццаць.

Як пазнаёміліся? На Цэнтральнай (Кастрычніцкай) — яна была пакрыта не асфальтам, а брукам, і там заўсёды граў духавы аркестр — былі танцы. Я з чарнявенькай пазнаёміўся, яна студэнтка педінстытута, сама з Баранавіч, кватаруецца недзе. Пачаў сустракацца. Але потым на вуліцы сустрэўся з яе маладой гаспадыняй, Светай. Гэта брунэтачка мая, яна кідкая, прыгожая. А тут убачыў нешта сваё, беларускае. Вялікія вочы такія... І я мучыўся з гэтай сваёй, з педінстытута. Урэшце сказаў, што мы з табой не можам быць мужам і жонкай, я бачу, што ты не маіх перакананняў. Яна пачынае: вось ты праз сваю беларускасць загубіш сабе кар'еру, сядзеш у турму. Я кажу: я цябе не перараблю, ты мяне не пераробіш...

### Працаваць

Я жонцы казаў, я гісторык, запомніш маё слова: мы з табой будзем вельмі старыя, але гэтая імперыя рухне. Яна рухнула, мы не такія старыя былі. А такой здавалася глыбай, такой сцяной непрабівальнай. Але гісторыя непрадбачная. Агульную тэндэнцыю можна ўлавіць, а канкрэтыка прыходзіць абсалютна нечакана. Але, каб гэтыя нечаканасці здараліся, трэба для іх працаваць. Хто рана ўстае, таму Бог падае.

**Друкуецца са скаротамі. Поўны варыянт чытайце на сайце nn.by**

---

**Міхась Чарняўскі: правілы жыцця і выказванні**

- (Студэнтам.) Я не вучу вас, я толькі магу натхняць.
- Мяркую, я б мог паразумецца з чалавекам каменнага веку.
- Бацька мне пальцам тыкаў у грудзі і казаў: «Ты запомні, ты — беларус!». Я казаў: «Я — белалус, белалус!»
- З матэматыкай у мяне было слаба, я яе не любіў. Бяздушныя формулы прыводзілі ў глыбокую дэпрэсію.
- У пятым класе рашыў я распаўсюджваць лістоўкі. Узяў сшытак у клетачку і друкаванымі літарамі пісаў там нешта, ледзьве не «Прэч рускіх акупантаў!».
- З дзяцінства хацеў падарожнічаць.
- Я ўжо, у прынцыпе, прыехаў у Мінск свядомым чалавекам.
- У антыкамуністычным пасляваенным руху ў Беларусі я не ведаю больш моцнай і гераічнай асобы за Расціслава Лапіцкага.
- Не ў кожнага лідара хапае мужнасці ўзяць на сябе боль людзей, што пайшлі за ім.
- Археолаг не можа быць калекцыянерам.
- Я вельмі шчаслівы, што сын стаў археолагам.
- Жонка мая любіць падмеціць, што ў Беларусі прыкладна 40 археолагаў і з іх тры у нашай сям'і.
- Наша мінулае не ў музеях і архівах — а ў зямлі.
- Зямлю можна чытаць як кнігу.
- Начальства не вечнае. Вечная толькі Беларусь.

ЗП

# Як «святкавалі» стары Новы год у бабруйскім НКВД

**У адной толькі маёй вёсцы было расстраляна 27 чалавек.**

Ужо амаль дзесяць гадоў я займаюся генеалагічным даследаваннем сваёй радзіны, якая паходзіць з вёскі Суцін на Пухавіччыне. Я зацікавіўся лёсам жыхароў ваколіцы, прозвішчы якіх былі пералічаныя ў дарэвалюцыйным перапісе землеўласнікаў Мінскай губерніі, і мне адкрылася жахлівая карціна: у вёсцы, якая налічвала 40–50 двароў, у 1920 і 1937—1938, было растраляна 27 чалавек.

Усе мужчыны — чыесьці бацькі, дзяды, дзеці... Толькі Скіндзераў было забіта сем чалавек. Уразіў трагічны лёс трох братоў Татураў, маладых, моцных мужчын. Яны былі расстраляныя ў Бабруйску ў адзін дзень — 13 студзеня 1938 года. Стары Новы год... У той жа дзень, у тым жа будынку бабруйскага НКВД, які месціўся ў былой гасцініцы «Бярэзіна», разам з Татурамі былі забітыя тры браты Сікілеўскія. А разам з імі — аднавяскоўцы Іосіф Панятоўскі, Іван Мітрыкевіч, Станіслаў Скіндзер, Фларыян Гурэцкі. Расстрэл, забойства ў адзін дзень дзесяці аднавяскоўцаў, целы якіх былі закапаныя недзе пад Бабруйскам, неяк не ўкладваецца ў галаве, не паддаецца асэнсаванню.

Дагэтуль улады адмаўляюцца назваць месцы пахаванняў нявінна забітых людзей, дагэтуль іх родныя не могуць пакласці кветкі на іх магілы, паставіць крыжы.

Ад таго «святкавання» старога Новага года ў бабруйскім НКВД споўнілася 75 гадоў. Паціху адыходзяць дзеці нявінна забітых людзей, а з імі пакрысе знікае і памяць пра іх.

Вось спіс суцінцаў-каталікоў, закатаваных у 1920—1930-я. Ён няпоўны, гэта толькі прозвішчы людзей і іх нашчадкаў, якія мелі ўласную зямлю ў Суціне да 1917 года. Акрамя іх, былі таксама і суцінскія праваслаўныя, і людзі, што прыехалі ў Суцін пасля рэвалюцыі, і суцінскія габрэі. Нікога не абмінула гэтая страшэнная навала.

Акрамя закатаваных, было шмат людзей, якім «пашанцавала»: 3, 5 і 10 год высылкі ў паўночныя выпраўляльна-працоўныя лагеры здаваліся не самым горшым на той час.

У пераліку расстраляных вяскоўцаў пазначаныя іх час жыцця, а таксама месца пахавання:




**Былая гасцініца «Беразіна» ў Бабруйску, дзе ў 1930-я размяшчалася НКВД.**

Булгак Геранім Станіслававіч (1855–01.10.1937 (Мінск)).
Гурскі Карл Ігнатавіч (?-01.10.1920 (Чэрвень)).
Гурскі Феліцыян Карлавіч (1884–01.10.1920 (Чэрвень)).
Гурэцкі Фларыян Карлавіч (15.09.1875–13.01.1938 (Бабруйск)).
Леановіч Казімір Кіпрыянавіч (1908–21.02.1938 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).
Мітрыкевіч Іван Андрэевіч (1899–13.01.1938 (Бабруйск)).
Панятоўскі Антон Антонавіч (1875–01.10.1920 (Чэрвень)).
Панятоўскі Іосіф Вікенцьевіч (1894–13.01.1938 (Бабруйск)).
Панятоўскі Казімір Каэтанавіч (?-01.10.1920 (Чэрвень)).
Панятоўскі Юльян Ігнацьевіч (1902–01.02.1938 (Мінск)).
Сікілеўскі Апалінары Карлавіч (1884–13.01.1938 (Бабруйск)).
Сікілеўскі Геранім Карлавіч (1890–13.01.1938 (Бабруйск)).
Сікілеўскі Станіслаў Карлавіч (1909–13.01.1938 (Бабруйск)).
Скіндзер Антон Францавіч (1880–21.02.1938 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).
Скіндзер Альберт Антонавіч (1908–21.02.1938 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).
Скіндзер Віктар Эдуардавіч (1896–1939 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).
Скіндзер Баляслаў Карлавіч (1910–31.08.1937 (Меднагорск, Арэнбургская вобласць)).
Скіндзер Станіслаў Дзянісавіч (1870–13.01.1938 (Бабруйск)).
Скіндзер Ян Уладзіслававіч (1892 — 01.10.1920 (Чэрвень)).
Скіндзер Карл Францавіч (?-01.10.1920 (Чэрвень)).
Татур Антон Мартынавіч (1905–13.01.1938 (Бабруйск)).
Татур Віктар Мартынавіч (1902–13.01.1938 (Бабруйск)).
Татур Іосіф Мартынавіч (1909–13.01.1938 (Бабруйск)).
Хаткевіч Пётр Ігнатавіч (1882–19.10.1937 (Мінск).
Шпакоўскі Віктар Антонавіч (1884–14.11.1937 (Смаленск)).
Шпакоўскі Віктар Кіпрыянавіч (1911–23.02.1938 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).
Шпакоўскі Станіслаў Кіпрыянавіч (1901–23.02.1938 (п. Пугвін Мыс, Пермская вобласць)).

**Віктар Крэс**

# Беларуская глыбіня. **Драўляны народ**

Піша **Павел Севярынец**.

*Валадар батлейкі,*
*Ён грахі нашыя*
*Сам узнёс Целам Сваім на дрэва,*
*каб мы, адцураўшыся грахоў,*
*жылі дзеля праўды:*
*ранамі Ягонымі вы ацаліліся.*
*І Пятра 2:24*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«Гэтую ў Ружаны вазілі? А гэтую?..» — гэбэшны опер грэбліва тыцкае пальцам у вусатыя фігуркі, а дзед, задаволены ўвагай, ахвотна ківае галавой: «Вазіў! І вось гэтых яшчэ. І вось, і вось... Ну і што вы цяпер мне зробіце? Думаеце, вы правіцелі? Я ўжо восемдзясят дажываю і такіх прэзідэнтаў штук дваццаць перажыў. Вы за чыноў, а я за мужычка ўсё жыццё стаяў. І буду стаяць, хоць вешайце мяне прама цяпер!»

Моцны, сухі і жвавы, з прымружанымі ў зморшчынах паляшуцкімі вачыма, крэпкімі ўчэпістымі пальцамі (быццам каранямі, толькі вось вырванымі з пушчанскай зямлі), у шэранькім паношаным пінжачку — здавалася б, звычайны вясковы пенсіянер, якіх у Беларусі мільён.

**«Шэдэўры дзеда Мікалая расхінаюць перад табой усю багну беларускага зла: п’янкі, сваркі, развал сям’і»**

На фэсце хрысціянскіх фільмаў Magnificat найлепшай з 38 працаў была прызнаная стужка менавіта пра гэтага пружанскага дзеда — Мікалая Тарасюка «Драўляны народ». Ён правадыр тысячаў выразаных, плеценых, вылепленых фігурак, цэлых кампазіцыяў вясковага побыту.

Нарадзіўся Мікалай Тарасюк тут, у Пушчы, у 1932-м, у сям’і гаспадароў. У 1939-м, каб пазбегнуць раскулачвання, аформілі развод, але ў 1944-м, калі Саветы вярнуліся, у калгас загналі ўсёй вёскай.

Маленькі Міколка дапамагаў бацькам, пасвіў жывёлу і ўжо тады захапіўся дрэвам, глінай ды пляценнем. Паціху рабіў, раздорваў знаёмым, ставіў драўляныя лялькі дома. Скрозь вайну, бальшавізм, меліярацыю, застой... Слава прыйшла са старасцю — і з перабудовай. У 1987-м на Усесаюзным фэсце народнай творчасці Тарасюк атрымаў Залаты медаль ВДНГ. У 1989-м стаў народным майстрам Беларусі. Пачалі прыязджаць чыноўнікі з аддзелаў культуры, журналісты, турысты. Палякі знялі фільм — «Гаспадар». Цэлыя калекцыі Тарасюка цяпер у Пружанах, Берасці, Мінску, Польшчы....

У 1994-м, годзе выбараў Лукашэнкі, дзед Мікалай якраз пабудаваў асобны дамок, дзе зладзіў музей «Успаміны Бацькаўшчыны» — у хаце драўляныя беларусы ўжо не змяшчаліся.

Да 80-годдзя ён выстаўляўся ў мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Выстава называлася «Страчаны рай». Глядзіш на выразаныя фігуркі на падстаўках, сплеценых з лазы, згадваеш вобразы згубленага беларускага вясковага Эдэму і спрабуеш дамысліць, адкуль гэта — з дрэва пазнання? З дрэва жыцця?..

Шэдэўры дзеда Мікалая расхінаюць перад табой усю багну беларускага зла: п’янкі, сваркі, развал сям’і. На дрэве фігурак, як і на дрэве крыжа — схопленыя, сцятыя, укрыжаваныя ў пакутлівай грымасе жарсць грэху і шчасце збавення.

У нямой батлейцы Тарасюка мы пазнаём сябе. Колькі не расфарбоўвайся стылем, модай ды іншым глянцам — усярэдзіне мы ўсё тыя ж персанажы простых пачуццяў і старых як свет гісторыяў. Вяселле. Застолле. Звада. Нарада ў Лукашэнкі...

Тут, на Берасцейшчыне, Тарасюк надта вядомы, каб можна было яго абысці, таму і паспрабавалі ўганараваць, залагодзіць, выставіць на вітрыну ўсенароднай стабільнасці і росквіту народнай культуры. У 2002-м годзе далі прэмію «За духоўнае адраджэнне». Падаравалі кватэру ў Пружанах — аддаў дачцэ.

А Тарасюк прыняў гэта як належнае — і не купіўся. І на фэст «Ружанская брама» ля адноўленага палаца Сапегаў узяў ды вывез цэлую батарэю вусатых лялек — на каньках, у гневе, на селектарных нарадах... Пярэпалах быў агульнабеларускі.

Драўляны народ Тарасюка — насамрэч грандыёзная беларуская батлейка. Батлейку, або бэтлеемку, ад Бэтлеема, дзе нарадзіўся Ісус, з лялечнымі Ірадам, Анёлам, Чортам, Бабай, Дзедам, Марыяй, Дзіцяткам — паказвалі як захапляльную павучальную гісторыю ўсяму паспалітаму люду на галоўнай Плошчы на Раство.

Беларуская батлейка з яе яскравым сімвалізмам і дзіцячай шчырасцю пры ўсёй цацачнай непасрэднасці таіла ў сабе найвялікшы біблейскі сэнс. Усю нашую мізэрнасць перад Богам, увесь камізм чалавечае сумятні — і спра-шчэнне жыцця да евангельскай прастасці. Барацьба дабра са злом у хатнім інтэр’еры, зведзеная да выштукаванай сутнасці, са спазнаваннем саміх сябе, высноўванне яснай маралі ў век суцэльнай хлусні — вось у чым цуд беларускай цацкі і драўлянай нацыі Тарасюка.

Думаеце, гэта несур’ёзна? Але такія ж самыя беларускія самародкі, як Тарасюк, ключом біблейскай батлейкі адчынялі сэрцы ўсяго чалавецтва. Першыя ў свеце лялечныя фільмы ў 1910-х — «Люканіда», «Маленькі народ», «Кветка папараці» — з розгаласам ад спецэфектаў па ўсёй планеце паставіў менавіта нашчадак паўстанцаў Уладзіслаў Старэвіч, які сам вырабляў лялькі для здымак і пра якога Уолт Дыснэй сведчыў: «Гэты чалавек абагнаў усіх аніматараў свету на некалькі дзесяцігоддзяў». Дарэчы, і галоўным мастаком Дыснэйлэнда стаўся наш Алія Клеч (Пашкевіч), а сусветную камп’ютарную мультыплікацыю (адкуль урэшце і «Шрэк», і «Ледавіковы перыяд») запачаткаваў былы мінчук Міхаіл Бернштэйн.

Мільярды дзяцей і дарослых, самі таго не ведаючы, ідуць следам за беларускімі валадарамі батлейкі.

...Мікалай Тарасюк памятае, калі на ягоным хутары Стойлы было больш за сорак двароў. А ў 2007-м памерла апошняя суседка. З тых часоў дзед Мікалай жыве тут, на закінутым, зарослым бур’янам узлеску, адзін. На месцы нашага пушчанскага Санта-Клауса, Святога Мікалая — Дзед Мікалай са сваім цацачным народам.

І шуміць лес.

І расце з беларускае глыбіні дрэва спазнання дабра і зла.

І дагэтуль, адолеўшы ўсе акупацыі, войны, саюзы, рупіцца над ім, выразае раты і вочкі, ускрывае раны, каб вызірнула з дрэва, ажыла беларуская душа, дзед Мікалай з Пушчы.

Гэтак жа засяроджана і ўладарна, як калісьці працаваў з дрэва, цяслярыў, вырэзваў — а пасля на тым жа дрэве быў укрыжаваны наш Збаўца Ісус Хрыстос.

*Куплін*

## ІМПРЭЗЫ

### Завіруха-2013

**26 і 27 студзеня ў Раўбічах** пройдуць трэція міжнародныя спаборніцтвы па ездавым спорце «Завіруха-2013». Самаму юнаму ўдзельніку гонак на сабаках — 7 гадоў, самаму дасведчанаму — 71. Таксама падчас спаборніцтваў выберуць самага моцнага і самага прыгожага сабаку Беларусі. Адкрыццё а 10-ай, пачатак у 11.30.

## КАНЦЭРТЫ

### Жывы тузін

**24 студзеня а 19-й у Loft (Броўкі, 22)** у межах праекта «Жывы тузін» адбудзецца супольны канцэрт двух адметных беларускіх гуртоў. BosaeSonca прэзентуе свой новы «Залаты альбом», а музыкі з ili-ili прэзентуюць новую беларускамоўную праграму list.

### Людзі на балоце

**25 студзеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — гродзенскі гурт «Людзі на балоце», які нядаўна запісаў альбом пра антыбальшавіцкі супраціў у Беларусі, з праграмай найлепшых і новых песень.

### Тройца

**30 студзеня а 19-й у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі** — канцэрт этна-трыа «Тройца».

### Трыб'ют Neuro Dubel

**7 лютага а 19-й у «Гудвіне» (пр. Незалежнасці, 19)** — канцэрт-трыб'ют Neuro Dubel. Бяруць удзел «Палац», IQ48, «Йо-йо», The UNB, Blagi Mat.




**2—3 сакавіка ў канцэнтнай зале Forim Palace ў Вільні** адбудзецца фестываль Razmarozka. У першы дзень выступае «Крамбамбуля», на наступны — беларускае трыа Port Mone і браты-літоўцы Данатас і Саўліус Пятрэйкісы. Літоўская амбасада забяспечвае тых, хто купіў білеты, бясплатнымі візамі. Білеты каштуюць ад 200 да 340 тысяч рублёў. Іх можна набыць у Мінску на Казлова, 7. Паспяшайцеся, квіткоў засталося няшмат! Інфалінія для даведак (029) 655-55-96.







### Даём рады

**1 лютага а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — фестываль «Даём рады». На адной сцэне сыграюць Akute, «Дай Дарогу!», :B:N:, Avias, Re1ikt i Clover Club.

### «Ляпіс Трубяцкой»

**8 і 9 лютага ў Санкт-Пецярбургу** — канцэрты гурту «Ляпіс Трубяцкой». З Беларусі арганізуюцца аўтобусныя туры.

### Канцэрт да 100-годдзя В.Лютаслаўскага

**2 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы Белдзяржфілармоніі** ансамбль салістаў «Класік-Авангард» прэзентуе праграму, прысвечаную 100-годдзю з дня народзінаў польскага кампазітара і дырыжора В.Лютаслаўскага.

### Арганнае мастацтва

**24 студзеня а 19-й у Філармоніі** — канцэрт Musica Britannica для аргана і альта. У выкананні Міхаіла Мішчанкі і Барыса Барынава прагучаць творы брытанскіх майстроў ХХ стагоддзя — Эдварда Элгара, Ральфа Воана Уільямса, Ёрка Боўэна, Алана Буша.

### Гала-аперэта

**24 студзеня ў 19.30 у Тэатры оперы і балета** — канцэрт «Гала-аперэта». У праграме творы І.Кальмана, Ф.Легара, І.Штрауса, Р.Фрымля, І.Дунаеўскага…

## ВЫСТАВЫ

### Музычная паштоўка

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава музычных інструментаў з прыватнай калекцыі Дзмітрыя Ровенскага «Музычная паштоўка». На выставе прадстаўлены звыш 100 музычных інструментаў. Сярод іх гармонікі, баяны, акардэоны, акарыны, трубы, дуды, жалейкі, дудкі, басэтля, цытра, флейта, тамбурын і іншыя.

### Беларускі кінематограф 1920-х-30-х у кінаплакаце

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе выстава кінаплаката «Беларускі кінематограф 20-х-30-х гадоў ХХ стагоддзя». Экспазіцыя складаецца з 30 поўнафарматных і поўнакаляровых рэпрынтаў кінаплакатаў да беларускіх фільмаў 1926—1940 гадоў.

### Сучаснасць. Былое. Майстар

**Да 31 сакавіка ў філіяле мастацкага музея «Музей беларускай народнай творчасці» (Раўбічы)** працуе выстава «Сучаснасць. Былое. Майстар» Аляксея Вярбіцкага. Наведнікі маюць магчымасць убачыць вырабы з металу, зробленыя майстрам-ювелірам паводле старажытных ювелірных тэхналогіяў.

### Жывы вобраз

**Да 17 лютага ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава іканапісных твораў Алёны Гордан «Жывы вобраз», выкананых у аўтарскай тэхніцы «мінеральны россып». Выява ствараецца з дапамогай замацавання прыродных самацветаў і паўкаштоўных камянёў на тонкай пласціне белага мармуру.

### Выстава эскізаў і кінаплакатаў

**Да 31 студзеня ў кіназале Музея гісторыі беларускага кіно** працуе выстава эскізаў і кінаплакатаў да фільмаў кінарэжысёра Міхаіла Пташука.

## ТЭАТРЫ

### 24 студзеня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

### 25 студзеня

**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Радэн. Клоп»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жыззэлі»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 26 студзеня

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жыззэлі»

### 27 студзеня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 28 студзеня

**Купалаўскі** — «Не мой»
**Беларускай драматургіі** — «Ігвіта, альбо Як гэта рабілі ў Францыі»

### 29 студзеня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 30 студзеня

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 31 студзеня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»

## КІНО

### Таранцінаўскі вестэрн пра звышчалавека-мурына

**Джанга вызвалены** (Django Unchained)
ЗША, 2012, каляровы, 165 хв.

**Рэжысёр:** Квенцін Таранціна
**Ролі выконваюць:** Джэмі Фокс, Крыстаф Вальц, Леанарда Дзі Капрыа, Сэмюэл Л.Джэксан, Кэры Вашынгтан, Джона Гіл, Квенцін Таранціна
**Жанр:** іранічны спагеці-вестэрн
**Адзнакі:** форма — 6.5, мараль — 3.

1858 год, паўднёвыя штаты за два гады да грамадзянскай вайны. Раб Джанга, вызвалены паляўнічым за галовамі Шульцам, прагне знайсці сваю жонку. Кампаньёны адпраўляюцца ў логава жорсткага плантатара. Таранціна, натхнёны вестэрнам «Джанга» Серджыа Карбучы, зрабіў радыкальны антырабаўласніцкі фільм пра чорнага звышчалавека на кані і ў каўбойскім капелюшы. Сябра Джангі, сыграны Крыстафам Вальцам, — немец, які распавядае пра Зігфрыда і Брунгільду. Пад уплывам тых аповедаў Джанга пачынае бачыць сябе героем старажытнага эпасу, звышчалавекам.

Фільм поўніцца таранцінаўскімі прыёмамі: гекалітрамі кінасадызму, цытатамі, чорным гумарам і энергічнай музыкай.

У фільме хапае знакамітых актораў: Сэмюэл Джэксан іграе лёкая, Леанарда Дзі Капрыа — плантатара (наймярзотнейшы яго персанаж за ўсю кінакар'еру).

**Андрэй Расінскі**



# Ці карысная локшына хуткага прыгатавання?

«Многія супавыя асновы **выклікаюць прывыканне**», — папярэджвае галоўны дыетолаг Міністэрства аховы здароўя.



Запараны брыкет не заменіць паўнавартасны абед

З маленства дзяцей прывучаюць не грэбаваць супамі ды харчавацца паўнавартасна. Асабліва хочацца чаго-небудзь гарачага ў моцныя зімовыя маразы. Многія ў якасці сапраўднай ежы выбіраюць прадукты хуткага прыгатавання, напрыклад, локшыну. Трэба прызнацца, што і ў «Нашай Ніве» ёсць аматары яе запарыць. А ўжо дзеці проста багомяць такія супчыкі. Ці можна сабе і ім такое дазваляць?

Інтэрнэт наўрад ці дасць адназначны адказ — сведчанні пра шкоднасць чаргуюцца з артыкуламі, якія сцвярджаюць: «Локшына хуткага прыгатавання — ежа як ежа». Сустракаюцца нават паэтапныя разборы кожнага кампанента са складу прадукту, якія ў выніку адмаўляюць негатыўныя эфекты локшыны хуткага прыгатавання.

Каб атрымаць кваліфікаваны каментар, «НН» звярнулася да галоўнага пазаштатнага дыетолага Міністэрства аховы здароўя Марыны Паповай.

**«НН»: Локшына хуткага прыгатавання — шкодны прадукт?**

**Марына Папова:** Усе прадукты хуткага прыгатавання — не найлепшы выбар. Праз тэхналогію вырабу такія карысныя рэчы, як вітаміны ды клятчатка, не захоўваюцца ці захоўваюцца ў вельмі малой колькасці. Да таго ж у прадукты хуткага прыгатавання дадаюць кансерванты і стабілізатары.

**«НН»: Ёсць меркаванне, што самае шкоднае ў локшыне — гэта супавая аснова, пакуначак з прыправамі, а калі іх не дадаваць, то можна есці не хвалюючыся.**

**Марына Папова:** Локшына хуткага прыгатавання звычайна вырабляецца з мукі найвышэйшага гатунку. Яна вельмі хутка гатуецца, але не ўтрымлівае амаль ніякіх карысных рэчываў. У супавую аснову дадаюць глутамат натрыю (узмацняльнік смаку E621 — **«НН»**). Гэтая дабаўка не забароненая, але выклікае прывыканне і вымушае чалавека пастаянна спажываць прадукты з ёю. Таксама выклікае пытанне якасць самой прыправы.

### Таннасць — міф

Локшына хуткага прыгатавання пазіцыянуецца як недарагі і даступны ўсім перакус. Яшчэ б: цэлы абед за 2 ці 3 тысячы! «НН» ужо высветліла, што прастакутнік локшыны «цягне» максімум на гарнір не першай якасці. Але і таннасць локшыны хуткага прыгатавання — міф. Зразумела, адзін пакунак каштуе няшмат, але і локшыны ў ім 50–100 грамаў. Кілаграм такой локшыны, выходзіць, каштуе ад 25 да 60 тысячаў рублёў.

Локшына — традыцыйная ежа ўсходніх народаў. Вынаходцам локшыны хуткага прыгатавання лічыцца японец Мамафуку Андо. Ён пачаў вырабляць яе з пшанічнай мукі, якую імпартавалі ў пасляваенную Японію з ЗША. Андо таксама навучыўся апарваць локшыну і смажыць яе ў алеі — пасля такой апрацоўкі страву трэба было толькі заліць кіпнем. Спачатку локшына Андо лічылася далікатэсам, але потым перайшла ў шэраг самых танных прадуктаў. Сам Андо казаў, што ў яго рацыёне штодзень прысутнічае локшына яго ж карпарацыі, і дажыў да 96 гадоў.

### Хочаш жыць — еш нармальна

З часоў з'яўлення локшыны хуткага прыгатавання мала што змянілася ў тэхналогіі яе вытворчасці: пшанічную ці яечную локшыну спачатку абдаюць парай, а потым смажаць у пальмавым алеі. У складзе локшыны розных вытворцаў можна знайсці араматызатары, фарбавальнікі, разрыхляльнікі, шмат тлушчу і вугляводаў.

Але запараны брыкет «хуткай» локшыны не можа замяніць паўнавартасны абед. «Можна раздругі падсілкавацца такой стравай падчас паходу, але гэта не той прадукт, які павінен прысутнічаць у штодзённым рацыёне чалавека», — кажа Марына Папова.

«Асноўная частка спажыўцоў такіх прадуктаў можа, але проста не хоча арганізоўваць сваё харчаванне, — кажа Папова. — Нішто не перашкаджае ўзяць на працу тую ж сумесь замарожанай гароднiны і пагрэць у мікрахвалёўцы ці звечара сабраць сабе абед з хатняй ежы, бо яна звычайна лепшая за любы паўфабрыкат, нават высокай якасці».

Усё залежыць ад жадання чалавека. Калі чалавек ставіць мэту быць здаровым і жыць доўга, ён ведае, што дыета — важны элемент добрага здароўя, і клапоціцца пра яе. Астатняе — адгаворкі.

**Кірыла Хілько**

Адукацыя

## Школьныя падручнікі выклалі ў інтэрнэт

А ўвосень з'явяцца электронныя **мультымедыйныя падручнікі**.

Міністэрства адукацыі Беларусі выклала ў вольны доступ школьныя падручнікі для вучняў I–XI класаў у фармаце PDF. Скачаць іх можна, напрыклад, з сайта Нацыянальнага інстытута адукацыі (adu.by).

«На жаль, не ўсе аўтары пагадзіліся выкласці свае творы для скачвання, — кажа прэссакратар міністэрства Юлія Ваніна. — Цяпер на сайце знаходзіцца 50 падручнікаў. Іх можна загрузіць сабе на планшэт ці ноўтбук і ўзяць у школу замест папяровай кнігі». Усяго ў навучальным працэсе ў беларускіх школах выкарыстоўваюцца 150 падручнікаў.

Але калі адсканаваныя падручнікі ўжо «пайшлі ў масы», дык набыццё прыладаў для іх выкарыстання пакуль застаецца асабістай справай бацькоў. Недарагія планшэты можна набыць ад $120, а ноўтбукі — ад $280.

Да наступнага года Мінадукацыі абяцае падрыхтаваць мультымедыйныя электронныя падручнікі — вучні змогуць чытаць інтэрактыўны тэкст, бачыць відэаролікі.

**КХ**



Знайсці месца для паркоўкі ў горадзе ўжо складана.

## У Мінску на 100 сямей прыходзіцца 43 аўтамабілі

Статыстычнае ўпраўленне горада правяло выбарачнае даследаванне — чым багатыя мінчукі. Выявілася, што на 100 хатніх гаспадарак прыходзіцца 43 легкавікі, дарэчы, столькі ж і фотаапаратаў. Дзесяць гадоў таму было 25 аўто.

Якой тэхнікі ў мінскіх сем'яў шмат? Кожныя 100 сем'яў у сярэднім маюць 223 мабільнікі, 161 тэлевізар і 104 халадзільнікі.

Апроч таго, ёсць 92 пральныя машыны, 87 пыласосаў, 86 камп'ютараў і 74 мікрахвалёўкі.

**ЯМ**

Прырода

## Мядзведзі вернуцца ў пушчу

У Белавежскай пушчы можа быць адноўленая папуляцыя мядзведзяў. Для гэтага звяры будуць закупленыя ў суседніх краінах, кожны каштуе па $50 тысяч. На дадзены момант у Беларусі засталося ўсяго 80 мядзведзяў, а ў Белавежскай пушчы — ніводнага.

**Паводле tut.by**

Сцісла

### Прымусовая эвакуацыя стане дзяржаўнай

У Беларусі зацверджаны новы парадак прымусовай буксіроўкі і эвакуацыі транспарту. Гэта зможа рабіць толькі ДАІ ці іншыя дзяржаўныя арганізацыі. Раней аўтамабілі парушальнікаў адцягвалі з дапамогай прыватнікаў, аднак тыя выстаўлялі завысокія тарыфы.

### На чыгунцы забаранілі курыць

У Правілы перавозак пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам агульнага карыстання ў Беларусі ўнесеныя змены. Адмененыя зніжкі для бацькоў з дзецьмі, а таксама для арганізаваных груп навучэнцаў, зменены парадак разліку абанемента на электрычкі, а таксама забароненае курэнне ва ўсіх цягніках, акрамя міжнародных.

### Якія паролі самыя папулярныя?

Спецыялістамі кампаніі SplashData, якая працуе ў сферы анлайнбяспекі, склалі спіс самых папулярных і лёгкіх для ўзлому пароляў. Першыя прыступкі ў рэйтынгу займаюць «password», «123456», «12345678», «abc123», «qwerty» (першыя па парадку літары на клавіятуры).

**ЯМ**




**У Мінску адбыўся ўступны кастынг праекта «Хачу ў ВІА Гру». Сярод беларусак ахвотных стаць салісткамі гурту знайшлося каля 50 чалавек. Ім давялося праспяваць, патанчыць і, пры жаданні, паказаць свае грудзі. Глядзіце відэа на nn.by.**



**Гэты малады чалавек — былы супрацоўнік беларускай вайсковай пракуратуры Сяргей Січкар. Цяпер ураджэнец Смаргоні стаў удзельнікам расійскага скандальнага рэаліці-шоу «Дом-2», дзе будзе «наладжваць каханне» — шукаць сабе дзяўчыну. Праграма ідзе на канале ТНТ ужо дзявяты год.**



MARIANNA MASSEY | GETTY IMAGES

**У аўстралійскім Сіднэі ўсталяваны рэкорд спёкі за 150 гадоў — +45,8. Грамадскі транспарт амаль не працуе, а вакол горада бушуюць пажары. Гараджане ратуюцца ад спёкі ў басейнах і ў адкрытым акіяне.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**А Беларусь тым часам апанавала сапраўдная зіма — вышыня снегу дасягае 35 см! Да канца тыдня маразы будуць толькі мацнець.**

## Анекдоты

* * *

Навукоўцы знайшлі ген, які адказвае за бандытызм, паклёп і карупцыю. Ён называецца ген-пракурор.

* * *

Рыхтуецца да друку кніга Л.Ярмошынай «Як выбраць палатку».

* * *

Добра ўзімку — паваліўся і адразу прыклаў да месца ўдару лёд.

* * *

Запаветная мара любога аленя — швэдар з людзьмі!

* * *

Па статыстыцы, людзі, якія пасля 9-га класа змешваюць піва з гарэлкай, пасля 11-га ўжо змешваюць пясок і цэмент.

* * *

Запомні дзве кароткія фразы, якія дапамогуць табе адчыніць любыя дзверы ў гэтым жыцці: «Да сябе» і «Ад сябе».

* * *

Толькі супрацоўнікам «Беларуськалія» і «Нафтана» дазваляюць фатаграфавацца з усмешкай.

* * *

Калі глядзець «Тытанік» наадварот, то гэта фільм пра карабель, які ратуе людзей.

* * *

На Вадохрышча мільёны людзей ідуць у палонку працягваць ліцэнзію на хрысціянства

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вёска Чмялевічы, Мінская губерня.** Тут прыкінулася надта паганая хвароба — воспа. Хварэюць не толькі дзеці, але і старыя людзі. Было ўжо колькі выпадкаў смерці. Пакуль ніякай помачы няма.

Жыве тут нейкі лекар-самавучка. Ён усе хваробы лечыць адным лякарствам: «адчэпнай соллю». А наш цёмны беларус гэтаму і рад. Во як ашукваюць нас усякія ведзьмакі і шаптуны.

**«НН». №3. 1913.**

**17 студзеня** сусветна вядомы навуковец Радзім Гарэцкі вяртаўся з пасяджэння нацыянальнага аргакамітэта па святкаванні Дня Волі. На акадэміка напалі, калі ён падыходзіў да свайго дома. Сп. Радзім атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і пералом носа. У яго кровападцёкі на руках, нагах і твары. У цяжкім стане акадэмік трапіў у аддзяленне нейрахірургіі 9-й мінскай клінікі, дзе яму зроблена аперацыя. Стан здароўя цяпер стабільны.

**«НН». №3. 2003.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8080. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 22.01.2013.
Замова № 160.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12